Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.


30 лістапада 1927 г.

№ 17 (42)

---

3-ці год выданьня.

---

Выданьне СНК БССР.
Менск—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

*Частка афіцыйная.*

*Частка неафіцыйная.*



## Друкарскія памылкі:

У № 15 (40) Бюлетэню СНК БССР у § 8 Інструкцыі Кіраўніцтва Землеўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўнай Зямельнай Маемасьці НКЗ БССР „Аб парадку і ўмовах пералічэньня зямель працоўнага карыстаньня пад ня сельска-гаспадарчыя промыслы і вытворчасьці“ заўважана наступная друкарская памылка:

Надрукована „не забараняе іншым органам улады даставаць дазволы“ на права займацца промыслам або вытворчасьцю...“, а павінна быць „не адсувае патрэбы даставаць дазволы ад іншых органаў улады на права займацца промыслам або вытворчасьцю“ і г. д.

## 1. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

АБ АПУБЛІКАВАНЬНІ ТЫПОВАГА СТАТУТУ ПРАМЫСЛОВА-КАПЕРАЦЫЙНАЙ АРЦЕЛІ (Т-ВА).

Пры гэтым апублікоўваецца тыповы статут прамыслова-каперацыйнай арцелі (т-ва).

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Начальнік Адміністрацыйна-Гаспадарчага Кіраўніцтва ВСНГ БССР **А. Лучышын.**

11 кастрычніка 1927 г.

## СТАТУТ

**прамыслова-каперацыйнай арцелі (таварыства)** ..................................

..................................

**якая называецца** ..................................

### І. Агульныя палажэньні.

1. На падставе гэтага статуту ўтвараецца арцель (т-ва) з назваю

..................................

з раёнам кaпераваньня насельніцтва ..................................

..................................

з месцам знаходжаньня кіраўніцтва ..................................

2. Мэтаю арцелі (т-ва) зьяўляецца дапамаганьне матар'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў і сумеснай арганізацыі працы ў супольных майстэрнях ..................................

..................................

3. Для дасягненьня паказаных у § 2 мэт, арцель (т-ва) можа:

а) складаць капіталы і заключаць пазычкі;

б) арганізоўваць выраб рэчаў і работы, паказаныя ў § 2, як па свайму пачыну, так і па заказах дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных арганізацый у супольных майстэрнях арцелі (т-ва) і на зямельных і лясных угодзьдзях, якія знаходзяцца ў распараджэньні арцелі;

в) прымаць уклады ад сваіх членаў;

г) рабіць склады для захаваньня вырабаў і матар'ялаў і адчыняць магазыны для збыту вырабаў свае вытворчасьці і весьці карэспандэнцкія зносіны з каперацыйнымі, грамадзкімі, дзяржаўнымі і іншымі ўстановамі і асобамі;

д) выдаваць сваім членам матар'яльную дапамогу ў розных няшчасных выпадках і дапамагаць пры будаваньні жылішч, лячэбніц, санаторый, калёній для дзяцей і іншых агульна-карысных устаноў;

е) з дазволу саюзу, у які уваходзіць прамыслова-каперацыйная арцель (т-ва), купляць для перапродажу і прымаць на камісію прадукцыю ад некапераваных саматужнікаў-рамесьнікаў, якія жывуць у раёне каператаваньня арцельлю насельніцтва, а таксама забесьпячаць іх сырцом, паўфабрыкатамі і прыладамі вытворчасьці.

*Увага.* Агульны зварот у галіне забесьпячэньня і збыту вырабаў ня членаў арцелі не павінен перавышаць 15 проц. усяго звароту арцелі (т-ва).

ж) узгадняючы з мясцовымі органамі асьветы, весьці сярод сваіх членаў культурна-асьветную і каперацыйную работу праз пашырэньне сярод сваіх членаў спэцыяльных ведаў у галіне арганізацыі арцельлю вытворчасьці, здабываньня і апрацоўкі тых ці іншых прадуктаў і праз пашырэньне ведаў агульна-асьветнага і каперацыйнага характару.

4. Арцель (т-ва) мае права, на падставе пастаноў агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), уваходзіць членам ў каперацыйныя саюзы і ў таварыствы блізкія па мэтах арцелі.

5. Арцель карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы.

6. Арцель мае пячатку з паказаньнем свае назвы.

7. Па ўзятых на сябе абавязнасьцях, а таксама за недакладнае выкананьне членамі арцелі сваіх абавязкаў і наогул за страты, зробленыя арцельлю або паасобнымі яе членамі, арцель адказвае ўсёю сваёю маемасьцю і капіталамі.

## II. Склад арцелі, правы і абавязкі яе членаў.

8. Членамі арцелі могуць быць асобы абодвых палоў, ад 16 гадоў.

*Увага.* Асобы, якія ня маюць права выбіраць у саветы, ня могуць быць закладчыкамі і выбірацца ў кіраўніцтва і ў рэвізыйную камісію арцелі (т-ва).

9. Кожны член арцелі павінен абавязкова ўдзельнічаць асабістаю працаю ў рабоце арцелі.

10. У члены арцелі прымае кіраўніцтва. Асобы, якія жадаюць увайсьці ў арцель, падаюць аб гэтым кіраўніцтву арцелі адпаведную заяву. Аб прыняцьці або аб адмаўленьні ў прыняцьці ў члены арцелі кіраўніцтва дакладвае для зацьверджаньня чарговаму агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных). Для асоб, якія жадаюць увайсьці ў арцель, можа быць устаноўлена папярэдняя спроба на працягу пэўнага тэрміну, але ня больш аднаго м-ца, пасьля сканчэньня якога адбываючая спробу асоба або становіцца поўнапраўным членам арцелі або спыняе працу ў арцелі, калі яна ня будзе прынята ў члены арцелі.

11. Уваходзячы ў арцель, кожны член яе павінен выдаць арцелі абавязнасьць аб тым, што ён прымае на сябе адказнасьць па справах арцелі ў межах, устаноўленых § 22 гэтага статуту.

12. Член, які ўваходзіць у арцель, адказвае і па тых абавязнасьцях, якія ўзьніклі да ўваходу яго ў члены.

13. Днём выхаду з арцелі лічыцца дзень падачы заявы члена арцелі аб выхадзе або пастановы аб яго выключэньні, але адказнасьць па справах арцелі спыняецца ў апошні дзень аперацыйнага году, у якім ён вышаў.

14. Днём выхаду памёршага члена арцелі лічыцца апошні дзень таго аперацыйнага году, у якім ён памёр. Да надыходу гэтага тэрміну маемасныя правы памёршага ажыцьцяўляюцца яго спадчынаемцам у межах, устаноўленых законам. Належачыя-ж правы ўдзелу памёршага ў агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважых) і на займаньне пасад у арцелі не пераходзіць да спадчынаемцаў.

15. Пастановаю агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) могуць быць выключаны з арцелі тыя, якія ня выконваюць без заслугоўваючых увагі прычын сваіх абавязнасьцяй перад арцельлю, і ідуць супроць статуту і законных патрабаваньняў арцелі або дзейнасьцю сваёю робяць шкоду арцелі.

16. Прычынаю выключэньня з складу членаў арцелі (т-ва) ня можа быць:

а) незьяўленьне члена арцелі на работу па хваробе на працягу трох месяцаў, пасьведчанай лекавымі ўстановамі аб непрацаздольнасьці;

б) незьяўленьне члена арцелі на работу ў выпадку навальных бядот на працягу ня больш сямі дзён.

17. Калі скарачаецца вытворчасьць, а таксама на час капітальных рамонтаў можа быць часова выключана частка членаў арцелі, якія пры пашырэньні вытворчасьці маюць пераважнае права на ўваход у арцель.

18. Днём выхаду выключанага лічыцца дзень аперацыйнага году, у якім член арцелі выключан.

19. Член, выключаны на падставе § 15 гэтага статуту, можа быць прыняты ізноў у арцель толькі пастановаю агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных).

20 Вышаўшыя і выключаныя члены пазбаўляюцца права ўдзельнічаць у агульных сходах (сходах упаўнаважаных) або займаць якія-небудзь пасады у арцелі ад дня падачы заявы аб выхадзе або ад дня пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) аб выключэньні.

21. Пасьля зыходу трох месяцаў ад часу зацьверджаньня агульным сходам (сходам упаўнаважаных) справаздачы за той аперацыйны год, на працягу якога член выйшаў або выключан, яму або яго спадчынаемцам аддаецца назад зроблены ім унос у паявы капітал арцелі, з вылічэньнем прыпадаючых на яго долю сум для папаўненьне выдаткаў арцелі, паводле §. 47 гэтага статуту, або з прылічэньнем сум, належачых вышаўшаму або выключанаму члену, паводле §. 46 гэтага статуту. Апроч памянёных вышэй паявых уносаў выбыўшыя або выключаныя члены арцелі не маюць права на атрыманьне якой небудзь долі з капіталу або іншай маемасьці арцелі.

22. Кожны член арцелі нясе супольна з усімі іншымі членамі арцелі адказнасьць па абавязнасьцях арцелі. Адказнасьць гэта вылічаецца ў павялічаным у .................................. разьмеры сумы, устаноўленай паводле § 25 гэтага статуту, абававязковага паю. Больш вызначанай такім чынам сумы з члена арцелі ня можа брацца на папаўненьне прэтэнзій трэціх асоб па абавязнасьцях арцелі.

*Увага.* Адказнасьць па справах арцелі, паводле законаў аб прамысловай капярацыі, ня можа перавышаць павялічанага ўпяць разоў разьмеру ў адносінах да паю.

23. Калі арцель спыняе сваю дзейнасьць да зыходу тэрміну адказнасьці вышаўшых або выключаных членаў, то выйшаўшыя або выключаныя члены па абавязнасьцях арцелі захоўваюць за сабою пры ліквідацыі арцелі маемасныя правы і нясуць адказнасьць нароўні з усімі членамі арцелі.

## III. Капіталы арцелі.

24. Арцель мае паявы капітал, які складаецца з абавязковых паёў членаў арцелі, з спэцыяльных для гэтага пазычак і адлічэньняў з даходаў арцелі пастановамі агульнага сходу членаў арцелі (сходу ўпаўнаважаных).

*Увага.* На пазычку ў паявы капітал арцель заключае з крэдытарамі пісаны дагавор аб тым, што пасьля спыненьня спраў арцелі пазычкі ў паявы капітал аддаюцца крэдытарам пасьля выплаты ўсіх іншых даўгоў арцелі.

25. Пай устанаўляецца ў разьмеры .................................. рублёў і ўносіцца або ўвесь пры ўваходзе ў арцель або ратамі, паводле правіл, устаноўленых агульным сходам (сходам упаўнаважаных). Кожны член арцелі павінен мець ня менш аднаго паю. На паі ня могуць быць накіраваны спагнаньні паасобных членаў па іх абавязнасьцях, а таксама па бяспрэчных адміністрацыйных патрабаваньнях. Пай ня можа перадавацца іншай асобе.

26. Арцель мае запасны капітал, які складаецца з абавязковых уступных уносаў членаў арцелі ў разьмеры .................................. рублёў, папаўняецца з чыстага прыбытку арцелі ў разьмеры ня менш аднае пятай часткі і прызначаецца для папаўненьне выдаткаў, якія перавышаюць даходы арцелі (т-ва).

27. Адлічэньне ў запасны капітал робіцца абавязкова кожны год да тых пор, пакуль ён ня будзе аднолькавы з паявым капіталам. Далейшае адлічэньне ў запасны капітал і ўстанаўленьне разьмеру адлічэньня ў яго залежыць ад агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных).

28. Арцель з спэцыяльных уносаў і з адлічэньняў чыстага прыбытку ў парадку, устаноўленым агульным сходам (сходам упаўнаважаных), утварае дапаможны капітал, які прызначаецца:
1) для выдачы узнагароды тым членам арцелі, якія страцілі працаздольнасьць пры няшчасных выпадках у вытворчасьці арцелі;
2) для выдачы дапамогі маючым недастатак членам арцелі і іх сем'ям у выпадках і формах, предугледжаных правіламі, якія ўстанаўляюцца агульным сходам членаў арцелі (сходам упаўнаважаных).

29. Што год з чыстага прыбытку арцелі адлічаецца ня менш 5 проц. для ўтварэньня амартызацыйнага капіталу, які прызначаецца для аднаўленьня маемасьці і абсталяваньне арцелі.

30. Пастановаю агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) могуць утварацца і іншыя капіталы з спэцыяльным прызначэньнем. Парадак утварэньня і выдаткаваньня капіталаў устанаўляецца агульным сходам (сходам упаўнаважаных).

## IV. Дзейнасьць арцелі.

31. Унутраны парадак вядзеньня работы арцелі ў супольных майстэрнях устанаўляецца агульным сходам (сходам упаўнаважаных).

32. Кожны член арцелі выконвае толькі тую работу, якую яму даручыла кіраўніцтва арцелі, і цалкам адказвае за выкананьне даручанай яму работы.

33. Калі член арцелі невыканае даручанай яму работы або выканае ня ў вызначаны час, то няспраўны член адказвае перад арцельлю за ўсе страты, якія будуць ад гэтага ў арцелі.

34. Парадак разьлічэньня з членамі арцелі або расцэнка іх работы ўстаўляецца агульным сходам членаў арцелі (сходам упаўнаважаных) альбо па яго паўнамоцтву кіраўніцтвам арцелі або асобнаю камісіяю, якая выбіраецца агульным сходам (сходам упаўнаважаных).

35. Уся работа ў прадпрыемствах і майстэрнях арцелі выконваецца асабістаю працаю членаў арцелі. Для розных дапаможных работ, якія ня могуць быць выкананы сваімі членамі і патрабуюць асаблівых спэцыяльных ведаў, напрыклад, для вядзеньня рахунказодства, тэхнічнай пастаноўкі, догляду за машынамі і г. д., арцель мае права запрашаць на службу пабочных асоб, але-ж агульны лік іх не павінен перавышаць 20 проц. усяго складу членаў арцелі.

*Увага.* У асаблівых выпадках наймовая праца можа быць дапушчана ў асноўнай вытворчасьці арцелі з дазволу органаў мясцовай гаспадаркі пры акруговым выканаўчым камітэце, які наглядае за прамысловаю капярацыяю, на вызначаны тэрмін у разьмерах, ім устаноўленых.

## V. Рэгуляваньне працы ў арцелі.

36. На арцель пашыраюцца законы аб працы ў галіне санітарыі, гігіены і тэхнічнай забясьпекі.

37. Калі члены арцелі выяджаюць на сталае жыцьцё з раёну дзейнасьці арцелі, то яны лічацца мэханічна выйшаўшымі з складу арцелі, калі яны на працягу трох месяцаў ня вернуцца ў арцель.

38. Для асоб, якія прымаюцца ў члены арцелі, могуць устанаўляцца кандыдацкія тэрміны ня больш аднаго месяца. Лік кандыдатаў не павінен перавышаць 20 проц. ліку членаў арцелі (§ 35).

39. Агульны лік наймовых асоб і кандыдатаў у члены арцелі разам не павінен перавышаць 30 проц. агульнага ліку членаў арцелі.

40. У часе спробнага пэрыаду кандыдаты ня лічацца наймовымі рабочымі і разрахунак з імі робіцца на такіх-жа падставах, якія ўстаноўлены для членаў арцелі.

41. Кожнаму кандыдату арцель павінна выдаць пасьведчаньне аб часе прыняцьця яго на папярэднюю спробу. Калі кандыдат ня будзе прыняты ў члены арцелі, то арцель робіць з ім разрахунак па нормах, устаноўленых для наймовых рабочых адпаведнай кваліфікацыі, паводле законаў аб працы, і плаціць належныя ўносы па сацыяльным страхаваньні.

42. Арцель можа браць у свае прадпрыемствы вучняў у ліку, устаноўленым законамі, і веку, паказаным у асобным палажэньні аб вучнях у саматужнай і дробнай прамысловасьці і ў прамысловай капярацыі.

43. За зробленыя страты членамі арцелі пры выкананьні агульнай арцельнай працы пабочным асобам адказвае арцель, а таксама арцель адказвае перад членамі арцелі ў межах, устаноўленага § 28 дапаможнага капіталу.

## VI. Папаўненьне выдаткаў арцелі і разьмеркаваньне чыстага прыбытку і страт.

44. Усе выдаткі арцелі папаўняюцца прыбыткамі ад яе вытворча-гандлёвых прадпрыемстваў, паводле каштарысу, які зацьверджаецца агульным сходам (сходам упаўнаважаных).

45. Чыстым прыбыткам лічыцца сума, якая атрымоўваецца, паводле гадовай справаздачы, пасьля адлічэньня ад агульнага даходу платы членам арцелі за работу і ўсіх арганізацыйных, гандлёвых, вытворчых і накладных выдаткаў па вытворчасьці арцелі.

46. Чысты прыбытак, які выявіцца ў гадавой справаздачы, разьмяркоўваецца наступным чынам: у амартызацыйны капітал адлічаецца ня менш 5 проц. чыстага прыбытку, у запасны капітал—20 проц. чыстага прыбытку, рэшта пасьля адлічэньня ў дапаможны капітал (§ 30) і дзе паводле пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) на ўтварэньне іншых спэцыяльных капіталаў, на агульна-карысныя для членаў арцелі ўстановы або можа быць выдадзена ў якасьці дадатковага заработку членам арцелі.

47. Калі ня будзе хапаць прыбытку арцелі на папаўненьне ўсіх паказаных у § 45 выдаткаў, то недахоп папаўняецца з запаснага і паявога капіталаў. Але-ж агульны сход (сход упаўнаважаных) можа, не чапаючы капіталаў, разьмеркаваць нехапаючыя сумы паміж усімі членамі арцелі ў межах іх адказнасьці (§ 22) прапарцыанальна ўдзелу кожнага з іх у работах арцелі або на іншых падставах паводле пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) і назначыць тэрмін, ня больш як да канца году для выплаты кожным членам свае часткі; калі член арцелі не заплаціць належачай з яго часткі, то кіраўніцтва спаганяе яе праз суд. Не спагнанае на працягу году з аднаго члена разьмяркоўваецца па тым-жа разьліку і спаганяецца з іншых членаў. Такая раскладка гадовых страт ня спыняе і не зьмяншае дадатковай адказнасьці членаў па абавязнасьцях арцелі пры яе ліквідацыі, паводле § 107.

## VII. Кіраваньне справамі арцелі.

48. Кіраваньне справамі арцелі ўскладаецца на: а) кіраўніцтва і б) агульны сход (сход упаўнаважаных).

### А. Кіраўніцтва.

49. Кіраўніцтва ёсьць выканаўчы орган арцелі. Яно павінна весьці ўсе справы і дзейнічаць на падставе гэтага статуту і на падставе зацьверджаных агульным сходам (сходам упаўнаважаных) правіл і інструкцый. Кіраўніцтва прадстаўляе арцель без асобнай на гэта даверанасьці па ўсіх яе справах, а таксама ў зносінах з членамі арцелі, і ўстановамі і пабочнымі асобамі.

50. У паасобку на кіраўніцтва ўскладаецца:

а) ажыцьцяўленьне ўсіх дзеяньняў паводле гэтага статуту і паводле зацьверджаных агульным сходам (сходам упаўнаважаных) правіл;

б) складаньне правіл па ўсіх галінах дзейнасьці арцелі і паданьне іх на зацьверджаньне агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных);

в) нагляд за дакладным выкананьнем работ членамі арцелі і прыйманьне ад членаў штрафаў накладзеных агульным сходам (сходам упаўнаважаных);

г) атрыманьне з крэдытных і розных іншых устаноў, а таксама ад прыватных асэб грошай і каштоўнасьцяй, выдача вэксалёў і захаваньне належачых арцелі і даручаных ёй грошай, каштоўнасьцяй і маемасьці;

д) набыцьцё патрэбнай для арцелі маемасьці;

е) страхаваньне ўласнай і даручанай арцелі маемасьці;

ж) заключэньне дагавораў і актаў на арэнду, куплю, продаж, дастаўку і інш. у межах, устаноўленых агульным сходам (сходам упаўнаважаных);

з) заключэньне пазычак у межах, устаноўленых агульным сходам (сходам упаўнаважаных), выдача вэксалёў, пазычковых і іншых абавязнасьцяй;

і) прыйманьне ўсякіх спагнаньняў для арцелі і прававаньне на судзе ад імя арцелі;

к) найманьне і звальненьне служачых і рабочых арцелі з абмежаваньнямі, устаноўленымі агульным сходам (сходам упаўнаважаных);

л) выдача даверанасьцяй;

м) прыйманьне новых членаў;

н) вядзеньне сьпісу членаў арцелі, паявых уносаў і разьмеры агульнай сумы дадатковай адказнасьці;

о) вядзеньне рахункаў, кніг і справаводзтва арцелі;

п) складаньне гадовай справаздачы, каштарысу, гаспадарчага пляну і падрыхтоўка іншых спраў для дакладу агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных);

р) скліканьне агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных);

с) наогул выкананьне ўсіх бягучых спраў і іншых абавязкаў, якія вынікаюць з статуту і з прынятых агульным сходам (сходам упаўнаважаных) пастаноў, правіл і інструкцый.

51. Даверанасьці, абавязнасьці, дагаворы, чэкі, вэксалі і ўсе інш. грашовыя дакумэнты ад імя кіраўніцтва падпісваюцца старшынёю або яго намесьнікам і адным з членаў кіраўніцтва.

52. Кіраўніцтва складаецца ня менш, як з трох асоб, выбраных агульным сходам (сходам упаўнаважаных) на адзін год з ліку членаў арцелі, якія маюць права, паводле законаў рэспублікі, выбіраць у саветы. Сход выбірае на такі самы тэрмін аднаго або двух кандыдатаў.

*Увага.* У арцелях, якія яднаюць ня больш 10 членаў, кіраўніцтва можа быць заменена старастаю, выбраным на такі самы тэрмін, як і кіраўніцтва. Стараста карыстаецца такімі самымі правамі і паўнамоцтвамі, як і кіраўніцтва арцелі.

53. У кіраўніцтва і ў рэвізійную камісію адначасна ня могуць уваходзіць асобы, якія належаць да аднэй сям'і (супругі, бацькі, унукі, брацьця, сёстры), а таксама асобы, якія знаходзяцца ў сваяцтве з мужам або з жонкаю члена кіраўніцтва або рэвізійнай камісіі.

54. Агульны сход (сход упаўнаважаных) можа сам выбраць старшыню кіраўніцтва, але ён можа і даручыць членам кіраўніцтва самім выбраць старшыню са свайго складу. Калі старшыня адсутнічае, то кіраўніцтва выбірае яму намесьніка.

55. Кіраўніцтва на пасяджэньні склікаецца старшынёю ня менш аднаго разу ў два тыдні. Аб часе (дні, гадзіне) пасяджэньня павінна быць вывешана абвестка ў кіраўніцтве.

56. Пасяджэньні кіраўніцтва лічацца адбыўшыміся, калі на ім прысўтнічае тры члены кіраўніцтва, у тым ліку старшыня і яго намесьнік.

57. У выпадку хваробы або адсутнасьці члена кіраўніцтва яго месца займае кандыдат, які атрымаў большасьць галасоў на выбарах.

58. На пасяджэньнях кіраўніцтва могуць прысутнічаць з дарадчым голасам кандыдаты ў члены кіраўніцтва.

59. Справы ў кіраўніцтве вырашаюцца простаю большасьцю голасоў. Калі будзе роўна голасоў, то голас старшыні дае перавагу.

60. Пастановы кіраўніцтва запісваюцца ў кнігу пратаколу і падпісваюцца прысутнымі членамі.

61. Унутраны парадак вядзеньня спраў і абавазкі кожнага члена кіраўніцтва ўстанаўляюцца інструкцыяю, зацьверджанаю агульным сходам (сходам упаўнаважаных). Правілы вядзеньня апярацый, з паказаньнем дзён і гадзін заняткаў, падпісаныя ўсім кіраўніцтвам, павінны быць вывешаны ў памяшканьні кіраўніцтва.

61. Кіраўніцтва на працягу трох месяцаў пасьля сканчэньня аперацыйнага году павінна склікаць гадовы сход для разгляду і зацьверджаньня падрыхтованай гадовай справаздачы.

63. Члены кіраўніцтва адказваюць супольна ўсёю сваёю маемасьцю за ўсе зробленыя па іх віне страты арцелі і незалежна ад гэтага яны працягваюцца за такія дзеяньні і недагляд, калі ёсьць для гэтага падстава, да крымінальнай адказнасьці. Па тых справах, якія даручаны агульным сходам (сходам упаўнаважаных), толькі аднаму з членаў кіраўніцтва, іншыя члены кіраўніцтва не адказваюць, калі яны ня мелі магчымасьці адхіліць зробленай шкоды.

64. Кіраўніцтва павінна весьці сьпісы:

а) членаў арцелі;

б) унесеных членамі паёў і паявых уносаў;

в) разьмеру адказнасьці па абазанасьцях арцелі.

65. Агульны сход (сход упаўнаважаных) можа назначаць членам кіраўніцтва адначасовую або сталую плату за працу.

66. Скаргі на кіраўніцтва падаюцца рэвізійнай камісіі або агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных).

67. Член кіраўніцтва можа быць да тэрміну скінуты з пасады агульным сходам (сходам упаўнаважаных) або часова рэвізійнаю камісіяю, калі будуць выяўлены растраты і інш. дзеяньні, якія пагражаюць інтарэсам арцелі, пры гэтым рэвізійная камісія павінна безадкладна ўжыць захады да скліканьня агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных).

## Б. Агульны сход (сход упаўнаважаных).

68. Да кампэтэнцыі агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) належыць:

а) выбары членаў кіраўніцтва, рэвізійнай камісіі і кандыдатаў да іх;

б) выключэньне членаў;

в) вырашэньне пытаньняў аб зьмене і аб дапаўненьні статуту;

г) разгляд і зацьверджаньне справаздач і гаспадарчых плянаў;

д) разьмеркаваньне чыстага прыбытку і папаўненьне страт і ўтварэньне спэцыяльных капіталаў;

е) устанаўленьне рат для ўнясеньня паёў;

ж) разгляд і зацьверджаньне інструкцый для кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі і назначэньне платы членам кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі;

з) разгляд і зацьверджаньне правіл парадку для ўсіх галін дзейнасьці арцелі, а таксама для гаспадарчай дзейнасьці арцелі, парадку арцельных работ і ўмоў працы, ацэнкі працы і г. д.;

і) устанаўленьне межаў, у якіх кіраўніцтва мае права заключаць пазычкі;

к) вырашэньне пытаньняў аб уваходзе арцелі ў таварыствы і саюзы;

л) разгляд скарг на кіраўніцтва і рэвізійную камісію і пытаньняў аб адказнасьці членаў кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі за недагляд і непра́вільныя іх дзеяньні;

м) пакараньне за пагоршаньне якасьці прадукцыі членамі арцелі і дысцыплінарныя пакараньні за невыкананьне інструкцый кіраўніцтва арцелі;

н) папярэджаньне членаў аб выключэньні, налажэньне на іх штрафаў, часовае адсоўваньне ад працы, ня больш як на адзін месяц, і выключэньне з членаў арцелі за псаваньне вырабаў і абсталяваньня арцелі;

о) вырашэньні пытаньня аб спыненьні дзейнасьці арцелі;

п) вырашэньне усіх іншых пытаньняў, якія перавышаюць паўнамоцтвы кіраўніцтва.

69. Агульны сход у арцелях, якія налічваюць больш 100 чал., можа быць заменены сходам упаўнаважаных, модус выбору ўпаўнаважаных устанаўляецца агульным сходам (сходам упаўнаважаных), аднак, ня менш аднаго ўпаўнаважанага ад 10 членаў арцелі.

70. Сходы членаў арцелі (сходы ўпаўнаважаных) бываюць чарговыя, які склікаюцца адзін раз на год, і надзвычайныя.

71. Чарговыя сходы склікаюцца кіраўніцтвам штогод, не пазьней трох месяцаў пасьля сканчэньня справаздачнага году, для разгляду справаздачы, каштарысу і гаспадарчага пляну, для выбароў і вырашэньня іншых бягучых спраў.

72. Надзвычайныя агульныя сходы (сходы ўпаўнаважаных) склікаюцца кіраўніцтвам па патрэбе і па патрабаваньні рэвізійнай камісіі альбо па патрабаваньні 1/10 часткі членаў арцелі. Калі агульны сход (сход упаўнаважаных) ня будзе скліканы кіраўніцтвам на працягу двух тыдняў ад часу падачы заявы, то ён склікаецца рэвізійнаю камісіяю.

73. Аб дні і месцы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), а таксама аб пытаньнях, якія будуць разглядацца на агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных), члены арцелі або ўпаўнаважаныя павінны быць паведамлены павесткамі не пазьней, як за тыдзен да сходу.

74. Агульны сход (сход упаўнаважаных) лічыцца адбыўшымся, калі на ім прысутнічае ня менш $^1/_3$ усіх членаў арцелі (упаўнаважаных).

Калі-ж сход склікаецца для вырашэньня пытаньняў аб зьмене статуту, аб разьмеркаваньні страт, аб утварэньні спэцыяльных капіталаў праз абавязковыя ўносы або аб спыненьні дзейнасьці арцелі, то патрэбна прысутнасьць ня менш $^1/_2$ усіх членаў арцелі (упаўнаважаных).

75. Калі ў дзень, назначаны для агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), не зьбярэцца паказаны ў § 74 лік членаў (упаўнаважаных, то склікаецца не пазьней, як праз два тыдні, другі сход. Гэты сход лічыцца адбыўшымся пры ўсякім ліку прысутнах членаў арцелі

(упаўнаважаных). На другім агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) могуць вырашацца толькі тыя пытаньні, якія былі пастаўлены ў парадку дня неадбыўшагася сходу.

76. Старшыня агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) выбіраецца агульным сходам (сходам ўпаўнаважаных). Члены кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі ня могуць выбірацца за старшыню. Пратакол агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) піша выбраны сходам сакратар.

77. На агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) кожны член арцелі (упаўнаважаны) мае толькі адзін голос, які ня можа быць перададзены іншай асобе. Члены кіраўніцтва і рэвізійнай камісіі удзельнічаюць на агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) на аднолькавых правох з іншымі членамі арцелі (упаўнаважанымі), але яны ня маюць пастаноўчага голасу пры вырашэньні пытаньняў:

а) аб зацьверджаньні справаздачы;

б) аб ухваленьні або аб ганьбаваньні іх дзейнасьці;

в) аб назначэньні ім платы;

г) аб скіданьні іх з пасад раней тэрміну, на які яны былі выбраны;

д) аб працягненьні іх да судовай адказнасьці.

На агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) могуць удзельнічаць з дарадчым голасам запрошаныя кіраўніцтвам асобы, якія не зьяўляюцца членамі арцелі.

78. Для вырашэньня пытаньняў аб зьмене статуту, аб разьмеркаваньні страт, аб утварэньні спэцыяльных капіталаў праз абавязковыя ўносы і аб спыненьні дзейнасьці арцелі патрэбна большасьць 2/3 галасоў прысутных на агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) членаў арцелі, усе іншыя пытаньні вырашаюцца звычайнаю большасьцю галасоў. Пры роўнасьці галасоў пытаньне лічыцца ня вырашаным.

79. Справы арцелі на агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) вырашаюцца адкрытым галасаваньнем.

80. Пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) запісваюцца ў кнігу пратаколаў агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) і падпісваюцца старшынёю і сакратаром агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), тымі членамі кіраўніцтва, якія прысутнічаюць на сходзе, і ня менш, як трыма членамі арцелі, упаўнаважанымі агульным сходам (сходам упаўнаважаных) падпісаць пратакол. Да пратаколу прыкладаецца сьпіс усіх прысутных на сходзе членаў арцелі (упаўнаважаных). Такі сьпіс сьцьвярджаецца тымі самымі асобамі, якія падпісваюць пратакол агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных).

81. На агульным сходзе (сходзе ўпаўнаважаных) кожны член мае права заявіць асобны погляд на вырашэньне таго ці іншага пытаньня і патрабаваць запісаньня яго ў пратакол агульнаго сходу (сходу ўпаўнаважаных).

82. Пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) набываюць законную сілу ад часу іх упрыняцьця, апроч пастаноў аб зьмене статуту, якія набываюць сіл ад часу рэгістрацыі іх у парадку, устаноўленым для рэгістрацыі статутаў.

83. Пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), якія супярэчаць законам і гэтаму статуту, не абавязковы да выкананьня. Кіраўніцтва павінна, ня выконваючы такіх пастаноў, склікаць надзвычайны агульны сход (сход упаўнаважаных) для новага вырашэньня пытаньня.

## VIII. Рэвізія спраў арцелі (т-ва).

84. Для рэвізіі спраў арцелі (т-ва) выбіраецца рэвізійная камісія, якая складаецца ня менш, як з 3-х членаў і 2-х кандыдатаў, выбраных агульным сходам (сходам упаўнаважаных) на адзін год з ліку членаў арцелі (упаўнаважаных), што не ўваходзяць у склад кіраўніцтва арцелі і ня служаць у арцелі, а таксама не пазбаўлены праў выбіраць у саветы.

УВАГА. У арцелях, якія яднаюць ня больш 10 чалавек, рэвізійная камісія можа быць заменена адным рэвізорам, які карыстаецца правамі рэвізійнай камісіі і пададказны агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных).

85. § § 52, 53, 56, 63, 65 і 67 гэтага статуту пашыраюцца таксама і на рэвізійную камісію.

На рэвізійную камісію ўскладаецца:

а) рэвізія ня менш аднога разу ў год, а таксама падрабязная рэвізія па патрэбе маемасьці і касы, гадовай справаздачы і наогул дзейнасьці арцелі;

б) падача агульнаму сходу (сходаў ўпаўнаважаных) заключэньняў аб гадовай справаздачы, каштарысе і гаспадарчым пляне, а таксама дача справаздачы аб сваёй дзейнасьці на працягу ўсяго году;

в) разгляд скарг на кіраўніцтва і падача аб іх заключэньняў агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных).

87. Даклады і заключэньні рэвізійнай камісіі да падачы іх агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных) аддаюцца ў кіраўніцтва для дачы на іх, калі гэта патрэбна, тлумачэньняў.

88. Рэвізійная камісія зьбіраецца перад склікаьнем агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), а таксама і ў іншы час, на падставе прапановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), і па свайму пагляду, калі гэта патрэбна.

89 Па скаргах на кіраўніцтва, а таксама па акалічнасьцях, выяўленых пры рэвізіі, рэвізійная камісія робіць паказаньні кіраўніцтву на дапушчаныя ім неправільнасьці. Калі будуць выяўлены значныя непарадкі або злоўжываньні ў справах арцелі, то рэвізійная камісія склікае агульны сход (сход упаўнаважаных).

90. Скаргі на рэвізійную камісію падаюцца агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных), але ня іначай, як праз рэвізійную камісію, якая павінна падаць іх бліжэйшаму агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных) з сваім заключэньнем.

91. Незалежна ад унутранай рэвізіі, арцель, якая зьяўляецца членам саюзу, абавязкова рэвізуецца саюзам. Арцель, якая не зьяўляецца членамі саюзу, абявязкова рэвізуецца дзяржаўным органам, у якім статут арцелі зарэгістраваны, ня менш аднаго разу ў год.

## IX. рахункаводзтва і справаздачнасьць.

92. Для дакладнага падліку свае гаспадарчай дзейнасьці арцель вядзе рахунковыя кнігі, у якія запісваецца:

а) агульны прыход і расход па ўсіх зваротах арцелі і гатоўка касы;

б) прыход і расход па кожным паасобным звароце арцелі;

в) падлік усяе маемасьці арцелі;

г) рахункі арцелі з служачымі і ўстановамі і пабочнымі асобамі з кожным паасобку;

д) рахункі з кожным паасобным членам арцелі па паявых уносах і на іншых рахунках.

93. Справаздачны год арцелі лічыцца з 1-га кастрычніка да 30 верасьня наступнага году. Першы справаздачны год лічыцца ад дня распачацьця дзейнасьці арцелі да бліжэйшага 30 верасьня.

94. Гадовая справаздача павінна мець у сабе ўсе патрэбныя даныя аб дзейнасьці арцелі, у паасобку, балянс, рахунак прыходаў і расходаў, зьмены ў складзе членаў арцелі і ў агульнай суме адказнасьці, якая прыпадае на членаў арцелі, а таксама прыход, расход і рэшты па зробленых на працягу году зваротах арцелі і па кожным такім звароце ў паасобку.

95. Гадовая справаздача павінна быць складзена і падпісана кіраўніцтвам не пазьней, як за два тыдні да агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных), якому гэтая справаздача павінна быць пададзена. На працягу гэтых двух тыдняў справаздача павінна быць ў пэўныя гадзіны адкрыта членам арцелі ў кіраўніцтве для абгляду. Калі на працягу паказанага тэрміну справаздача ня будзе складзена кіраўніцтвам, то рэвізійная камісія павінна даручыць яе складаньне іншым асобам пад сваім наглядам за кошт членаў кіраўніцтва. Да падачы агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных) справаздача разам з кнігамі і дакумэнтамі правяраецца рэвізійнаю камісіяю, аб чым яна робіць надпіс на справаздачы, падпісаны ўсімі членамі. Справаздача падаецца агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных) з заключэньнем рэвізійнай камісіі.

96. Зацьверджаная агульным сходам (сходам упаўнаважаных) справаздача захоўваецца пры справах арцелі. Арцель, якая зьяўляецца членам саюзу, павінна паслаць копію гадовай справаздачы ў саюз, а арцель, якая не зьяўляецца членамі саюзу, у той орган, у якім зарэгістраваны статут арцелі.

97. Рахунковасьць і справаводзтва арцелі вядзецца на ........................ мове.

## X. Ліквідацыя арцелі.

98. Арцель лічыцца не адбыўшаюся, калі яна не распачала ажыцьцяўленьня свае дзейнасьці, прадугледжанай статутам, на працягу трох месяцаў ад дня зарэгістраваньня статуту. Закладчыкі арцелі павінны апублікаваць у афіцыйным органе друку аб тым, што арцель не адбылася, і накіраваць статут у той орган, дзе арцель была зарэгістравана, для выключэньня з рэестру.

99. Арцель ліквідуецца:

а) пастановаю агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных);

б) калі лік членаў арцелі будзе меншы 5-ці і арцель не папоўніць свой склад на працягу аднаго месяцу да ўстаноўленага мінімуму (5 чал.).

УВАГА. Арцель, у якой членаў застаецца менш 3 чал., павінна ліквідавацца.

в) пастановаю суду, а таксама пастановаю акруговага выканаўчача камітэту альбо Эканамічнай Нарады пры СНК БССР.

100. Ліквідацыя арцелі робіцца паводле законаў СНК і ЦВК СССР з 11-га мая 1927 г. аб прамысловай капярацыі і адпаведных пастаноў СНК і ЦВК БССР.

101. Калі ў арцелі астанецца менш 5-ці членаў, а таксама ў іншых выпадках, калі не адбыўся агульны сход членаў (сход упаўнаважаных) для вынясеньня пастановы аб ліквідацыі, то кіраўні-

цтва або члены, што асталіся ў арцелі, павінны неадкладна паведаміць аб гэтым установу, якая рэгіструе статуты прамысловых арцеляй, і пасля атрыманьня ад апошніх паўнамоцтваў на ліквідацыю распачынаюць такую, пры гэтым, калі для якіх небудзь дзеяньняў ліквідатараў патрэбна пастанова агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) то такія дзеяньні могуць рабіцца толькі з дазволу рэгіструючай установы.

102. Парадак ліквідацыі спраў арцелі вызначаецца пастановаю агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) і не павінен перавышаць 6 месяцаў ад дня пастановы аб ліквідацыі арцелі.

103. Пастанова агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) аб ліквідацыі арцелі паведамляецца той установе, у якой зарэгістраваны статут арцелі, і публікуецца ў мясцовым органе друку аб ліквідацыі арцелі.

104. Ліквідацыя арцелі робіцца членамі арцелі, калі пастановаю агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) яна ня будзе ўскладзена на іншых асоб. Ліквідатараў ня можа быць менш 3-х чалавек.

105. Ліквідатары павінны выконваць правілы, устаноўленыя для членаў кіраўніцтва, і на такіх-жа падставах адказваюць за зробленыя страты арцелі, а таксама кантралююцца рэвізійнаю камісіяю.

106. Ліквідатары выконваюць абавязнасьці арцелі, атрымоўваюць і спаганяюць па яе патрабаваньнях і распрадаюць належачую арцелі маемасьць. Заключаць новыя абавязнасьці ліквідатары могуць толькі ў тым выпадку, калі ім гэта будзе дазволена агульным сходам (сходам упаўнаважаных).

107. Калі маемасьці арцелі ня будзе хапаць для папаўненьня ўсіх абязнасьцяй яе, то робіцца разрахунак, якую суму ў межах свае адказнасьці (§ 22.) павінен заплаціць кожны член арцелі, а таксама вышаўшыя з арцелі члены (§ 47). Сумы не заплочаныя дабравольна спаганяюцца праз суд.

108. Паі членам арцелі, могуць аддавацца назад не раней выплаты даўгоў арцелі і ў кожным выпадку не раней трох месяцаў ад дня публікацыі аб назначэньні ліквідацыі. Сумы, патрэбныя для задаваленьня па спрэчных пазычках арцелі і па іншых пазычках, па якіх тэрмін выплаты яшчэ не надышоў, адлічаюцца ліквідатарамі і ўносяцца на захаваньне ў дзяржаўныя крэдытныя ўстановы. За парушэньня правіл гэтага параграфу ліквідатары адказваюць салідарна перад арцельлю і перад крэдытарамі. Такая самая адказнасьць ускладаецца і на членаў рэвізійнай камісіі, калі яны, выявіўшы парушэньня не заявяць аб гэтым у пісьмовай форме.

109. Пасьля скончэньня ліквідацыі ліквідатары складаюць справаздачу аб сваёй дзейнасьці і падаюць з заключэньнем рэвізійнай камісіі агульнаму сходу (сходу ўпаўнаважаных). Пасьля зацьверджаньня справаздачы аб скончэньні ліквідацыі паведамляецца тая ўстанова, у якой статут быў зарэгістраваны, куды накіроўваюцца таксама справы, кнігі і дакумэнты арцелі. Аб скончэньні ліквідацыі публікуецца ў мясцовым афіцыйным органе друку.

110. Пасьля выплаты даўгоў арцелі і пасьля аддачы назад паёў маемасьць арцелі накіроўваецца пастановаю ліквідацыйнага сходу на карысныя мэты для працоўнага насельніцтва, а калі існуюць саюзныя аб'аднаньні прамыслова-каперацыйных таварыстваў, то перадаецца ім для дапамогі прамысловай капярацыі.

## 2. Пастанова Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

АБ АБАВЯЗКОВАЙ ПРАВЕРЦЫ І КЛЯЙМЕНЬНІ ПУРАК У БССР.

На падставе арт. 6 палажэньня аб мерках і вагах, зацьверджанага ЦВК і СНК СССР 6/VI 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА СССР 1924 г., № 6, арт. 202) і ў разьвіцьцё загаду ВСНГ СССР за 6/X—1927 г., № 21 („Торгово-Промышленная Газета“ за 9/IX—1927 года, № 231), Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР пастанаўляе:

1. Пуркі, якія ўжываюцца для вызначэньня натуры зярна і насеньня пры загатоўках збожжа і пры гандлёвых угодах, належаць да абавязковай пэрыядычнай праверкі і кляйменьня ў Менскай Праверачнай Палаце Мерак і Ваг, а для Віцебскай, Полацкай і Аршанскай акруг—у Віцебскім Аддзяленьні Палаты.

2. Праверка і кляйменьне пурак робіцца паводле правіл вызначэньня натуры зярна і інструкцыі аб вырабе пурак, якія выдаюцца Галоўнаю Палатаю Мерак і Ваг пры ВСНГ СССР.

3. Плата за кляйменьне бярэцца на падставе пастановы ВСНГ СССР і Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 6/X—1927 г. у наступным разьмеры: за праверку мэтрычнай дваццацілітравай пуркі—15 руб., мэтрычнай літравай пуркі—4 р., 1/4 літравай пуркі—3 руб.

4. Абавязковая праверка робіцца з 15-га лістападу 1927 г. да 1-га студзеня 1928 г.

5. Асобы, вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці ў судовым або ў адміністрацыйным парадку, паводле арт. 18 палажэньня аб мерках і вагах.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай
Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Начальнік Адміністрацыйна-Гаспадарчага
Кіраўніцтва БССР **А. Лучышын.**

11 лістапада 1927 г.
№ 23.

---

Пасьля ўзгадненьня з Н. К. Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР
Зацьвярджаю.
Народны Камісар
Фінансаў БССР **І. Васілевіч.**
29-га верасьня 1927 г.

## 3 Правілы аб ужываньні пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 14-га красавіка 1927 г. „Аб ліквідацыі камісіі па падліку і рэалізацыі дзяржаўных фондаў“.

### I. Аб парадку рэалізацыі маемасьці, якая была на падліку Дзяржаўнай Фондавай Камісіі і потым перадана органам Н. К. Фінансаў БССР.

1. З тае прычыны, што Камісія Эканамічнай Нарады па падліку і рэалізацыі дзяржаўных фондаў, якая знаходзілася пры НКФ БССР, ліквідавана, а беспасрэдныя абавязкі па выяўленьні, падліку і рэалі-

зацыі маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў, і іншай нягоднай і непатрэбнай маемасьці бюджэтных дзяржаўных установ, а таксама і неліквідных фондаў дзяржаўных прадпрыемстваў ускладзены на адпаведныя народныя камісарыяты і іх мясцовыя органы і акруговыя выканаўчыя камітэты, нерэалізаваная маемасьць, што належыць да дзяржаўных фондаў, якая знаходзіцца на падліку паказанай камісіі і акруговых яе падкамісій, а таксама разрахункі па дэбіторах і крэдыторах перадаюцца: у цэнтры — Кіраўніцтву Дзяржаўнымі Даходамі Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР, а ў акругах —акруговым фінансавым аддзелам, пасьля гэтага названыя Камісія і падкамісіі спыняюць сваю дзейнасьць.

2. Прынятую маемасьць, якая належыць да дзяржаўных фондаў, органы Народнага Камісарыяту Фінансаў рэалізуюць спосабам продажу з таргоў, а калі не адбудуцца другія таргі, то гаспадарчым спосабам з пераацэнкаю ў выпадку патрэбы.

*Увага.* Дзяржаўным установам, дзяржаўным прадпрыемствам і капярацыі маемасьць, якая належыць да дзяржаўнага фонду, можа быць прадана і без таргоў, але не таньней ацэначнага кошту. Прыватным асобам гэтая маемасьць можа быць прадана толькі ў тых выпадках, калі на яе ня будзе купцоў ад дзяржаўных органаў, капярацыі або іншых грамадзкіх аб'яднаньняў.

3. Вырučаныя ад продажу маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў, сумы, ўносяцца ў даход скарбу і залічаюцца ў § 32 каштарысу Н. К. Фінансаў, з адлічэньнем 50 проц. у даход мясцовага бюджэту, паводле п. „і“ арт. 24 Палажэньня аб мясцовых фінансах.

4. Прынятыя ад Дзяржаўнай Фондавай Камісіі і ад яе падкамісій разрахункі па дэбіторах і крэдыторах б. Народнага Камісарыяту Харчаваньня органы Н. К. Фінансаў ліквідуюць на тых-жа падставах, якія былі ўстаноўлены для камісій па дзяржаўных фондах, г. зн. з спагнаньнем з дэбітораў належачых скарбу сум па агульных для спагнаньня спрэчных сум падставах і з здавальненьнем крэдытораў за рахунак сум, атрыманых ад дэбітораў.

*Увага.* Калі ў якім-небудзь з акруговых фінансавых аддзелаў будуць прыняты рахункі крэдытораў, але будуць адсутнічаць рахункі дэбітораў, за кошт якіх можна-б было задаволіць прэтэнзіі першых, то акруговыя фінансавыя аддзелы прынятыя рахункі крэдытораў з усімі дакумэнтамі неадкладна перадаюць у Кіраўніцтва Дзяржаўнымі Даходамі Н. К. Фінансаў.

## II. Аб падліку і рэалізацыі ведамствамі маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў.

5. З часу выданьня гэтых правіл за органамі НК Фінансаў астаецца абавязак падліку і рэалізацыі толькі:

а) безгаспадарчай, адмерлай і канфіскаванай маемасьці;

б) маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў і знаходзіцца ва ўстановах НК Фінансаў і

в) нягоднай і непатрэбнай маемасьці ўстаноў НК Фінансаў.

6. Падлік і рэалізацыя маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў, а таксама нягоднай і непатрэбнай маемасьці ва ўстановах іншых ведамстваў ускладаецца на ўстановы гэтых ведамстваў пад кіраўніцтвам апошніх.

7. Да маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў, адносіцца: а) у дзяржаўных установах маемасьць, прынятая імі ў пэрыяд свае арганізацыі, але не адпавядаючая характару іх дзейнасьці, б) у дзяржаўных прадпрыемствах такая-ж маемасьць, якая не ўвайшла ў іх статутныя капіталы.

8. Да нягоднай маемасьці ў дзяржаўных установах і прадпрыемствах, якія знаходзяцца на дзяржаўным або на мясцовым бюджэце, адносіцца ўся маемасьць, якая нягодна да далейшага скарыстаньня з прычыны страты свае якасьці, а да непатрэбнай адносіцца маемасьць, якая відавочна перавышае патрэбу ў ёй для паказаных устаноў або прадпрыемстваў.

9. Маемасьць, якая належыць да дзяржаўных фондаў, а таксама нягодная і непатрэбная, узятая на падлік у кожным з ведамстваў, у тым ліку і па ведамству НК Фінансаў, павінна ацэньвацца і рэалізавацца ў парадку, паказаным у арт. 2 гэтых правіл.

10. Сумы, выручаныя ад рэалізацыі маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў, а таксама нягоднай і непатрэбнай, ўзятай на падлік ў бюджэтных установах і прадпрыемствах, здаюцца:

а) па ўстановах і прадпрыемствах, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце,— у дзяржаўны бюджэт;

б) па ўстановах і прадпрыемствах, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце,—у даход па адпаведным бюджэце, у залежнасьці ад таго, па якім з бюджэтаў (акруговым або раённым) утрымоўваецца даная установа або прадпрыемства.

11. Праэктуемыя да паступленьня сумы ад рэалізацыі маемасьці, якая належыць да дзяржаўных фондаў, а таксама нягоднай і непатрэбнай маемасьці павінны ўключацца штогод у даходныя каштарасы ведамстваў, што знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, якія каштарысы падаюцца ў Н. К.Фінансаў для ўключэньня ў дзяржаўны бюджэт, і ў даходныя часткі мясцовых бюджэтаў (акруговых і раённых)—па ўстановах, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце.

## III. Аб падліку і рэалізацыі неліквідных фондаў.

12. Да падліку і рэалізацыі належыць неліквідная частка зваротных сродкаў, а таксама прыйшоўшыя ў нягоднасьць, застарэлыя і не мажлівыя да скарыстаньня ў вытворчасьці паводле іх прызначэньня маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку.

*Увага.* Да падліку і рэалізацыі належыць маемасьць, якая знаходзіцца ва ўстановах і прадпрыемствах, падпарадкаваных усім аб'яднаным і неаб'яднаным народным камісарыятам, ВСНГ, акруговым і раённым выканаўчым камітэтам БССР.

13. Неклівіднаю часткаю зваротных сродкаў дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў, якая належыць да падліку і рэалізацыі, зьяўляецца:

а) сырэц; б) матар'ялы; в) паўфабрыкаты; г) апал; д) гатовыя вырабы, якія ня могуць быць скарыстаны ў вытворчасьці і гаспадарцы данага прадпрыемства або ўстановы на працягу бліжэйшых двух аперацыйных гадоў, альбо бесстратна рэалізаванымі на рынку, як ня маючыя адносін да вытворчасьці, або як нягодныя з прычыны страты свае якасьці, а таксама з прычыны неадпаведнасьці сваячасным кандыцыйным патрабаваньням.

14. Да маемасьці дзяржаўных прадпраемстваў і ўстаноў, якая належыць для падліку і рэалізацыі паводле арт. 12 гэтых Правіл, адносяцца:

а) інвэнтар і часьці абсталяваньня, якія ня могуць быць скарыстаны ў вытворчасьці або гаспадарцы данага прадпрыемства або ўстановы з прычыны відавочнай іх нягоднасьці, зношанасьці, тэхнічнай застарэласьці, нявыгаднасьці эксплеатацыі і г. д.;

б) разбураныя і паўразбураныя будынкі, а таксама вытворчыя адзінкі і іх аддзяленьні, прызначаныя на раскіданьне, калі гэтая маемасьці або атрыманыя ад іх ліквідацыі матэр'ялы ня могуць быць скарыстаны ў гаспадарцы прадпрыемства або ўстановы.

15. Выяўленьне і падлік паказаных у папярэдніх артыкулах матар'яльных каштоўнасьцях і маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, падпарадкаваных народным камісарыятам БССР, а таксама акруговым і раённым выканаўчым камітэтам, павінны быць скончаны на працягу двух месяцаў ад дня выданьня гэтых Правіл.

*Увага*. З тае прычыны, што ў прадпрыемствах ВСНГ падлік неліквідных матар'яльных каштоўнасьцяй ужо скончаны, на апошнім, па падставе арт. 2 пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі за 14-га красавіка 1927 г., ляжыць абавязак ужываць адпаведныя захады да хутчэйшай рэалізацыі прадпрыемствамі выяўленай неліквіднай маемасьці і матэр'яльных каштоўнасьцяй.

16. Матар'яльныя каштоўнасьці і маемасьць, якія запісваюцца ў падлічальныя ведамасьці, ацэньваюцца дваяка: а) па апошнім балянсавым іх кошце і б) па ацэначным кошце ў момант падліку.

Апроч таго, у тых-жа ведамасьцях паказваецца арыентыровачная цана, па якой лічыцца магчымым рэалізаваць даную маемасьць.

17. Прадпрыемствы і ўстановы складаюць агульную зборку ўсяе падлічанай маемасьці і матар'яльных каштоўнасьцяй па групах. Зборкі падлічанай маемасьці і матар'яльных каштоўнасьцяй з дадаными да іх групавымі спэцыфікацыямі і з паясьняльнаю запіскаю аб магчымасьці рэалізацыі самім прадпрыемствам або ўстановаю і аб магчымым парадку і тэрмінах рэалізацыі падаюцца ў тыя ведамствы або акруговыя выканаўчыя камітэты, якім гэтыя ўстановы або прадпрыемствы падпарадкаваны.

13. Падлічаныя ў парадку папярэдніх артыкулаў гэтых Правіл матар'яльныя каштоўнасьці і маемасьць значацца да часу рэалізацыі паасобнымі артыкуламі па актыву балянсу кожнага прадпрыемства або установы.

19. Рэалізацыя падлічаных матар'яльных каштоўнасьцяй і маемасьці ажыцьцяўляецца адміністрацыяю прадпрыемстваў або ўстаноў пад бліжэйшым кіраўніцтвам ведамства або акруговага выканаўчага камітэту па належнасьці.

Пры рэалізацыі маемасьці прадпрыемствы і ўстановы павінны захоўваць пастанову ЦВК і СНК БССР за 31-га студзеня 1925 г. (З.З. БССР 1925 г., № 16, арт. 114) аб адчужэньні некаторых катэгорый дзяржаўнай маемасьці.

20. Апроч рэалізацыі падлічанай маемасьці і матар'яльных каштоўнасьцяй спосабам продажу, прадпрыемствам і ўстановам даецца права скарыстоўваць падлічаную маемасьць і матар'яльныя каштоў-

насьці ў вытворчасьці або гаспадарцы спосабам перапрацоўкі іх (скарыстаньне гатовых вырабаў, як паўфабрыкатаў, як сырцу і г. д.), калі такое скарачэньне зьявіцца эканамічна найбольш карысным, чымся продаж.

21. Продаж маемасьці, уваходзячай у склад асноўнага капіталу прадпрыемства або ўстановы, якая рэалізуе гэтую маемасьць, дапушчаецца на іначай, як з дазволу адпаведнага ведамства або акруговага выканаўчага камітэту і пры гэтым абавязкова ў парадку публічных таргоў.

*Увага.* Да аб'ектаў маемасьці з ацэнкаю менш 1.000 руб. ужываньне таргоў неабавязкова.

22. Аб усіх падлічаных матар'яльных каштоўнасьцях і маемасьці, якія ня могуць быць рэалізаваны ні спосабам продажу, ні спосабам скарыстаньня ў вытворчасьці або гаспадарцы ўстановы або прадпрыемства (з прычыны ўмоў рынку або па іншых прычынах), прадпрыемствы і ўстановы паведамляюць адпаведныя ведамствы або акруговыя выканаўчыя камітэты, якім яны падпарадкаваны, на распараджэньне.

Калі-ж ведамствы або акруговыя выканаўчыя камітэты згодзяцца з немагчымасьцю скарыстаньня неліквіднай маемасьці прадпрыемстваў або ўстаноў або рэалізацыі яе спосабам продажу нават па зьніжанай ацэнцы, то яны могуць дазваляць адпаведным установам або прадпрыемствам бясплатна перадаць такую маемасьць каперацыйным або грамадзкім арганізацыям (камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі) для скарыстаньня.

23. З сум, выручаных ад рэалізацыі падлічаных неліквідных матар'яльных каштоўнасьцяй і маемасьці, пасьля вылічэньня з іх выдаткаў на рэалізацыю, 50 проц. залічаецца на павялічэньне зваротных капіталаў прадпрыемстваў або гаспадарак і 50 проц. у адпаведны прамысловы фонд.

*Увага.* У падпарадкаваных Народнаму Камісарыяту Земляробства Беларускім Сельска-Гаспадарчым Трэсьце і Цэнтральным Складзе Земляробчых Прылад выручаныя ад рэалізацыі неліквідных фондаў сумы цалкам накіроўваюцца ў зваротныя сродкі гэтых прадпрыемстваў, паводле пастаноў Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 30-га верасьня 1926 г. і за 14-га чэрвеня 1927 г.

24. Аб падлічаных неліквідных каштоўнасьцях і маемасьці і аб ходзе рэалізацыі апошніх установы і прадпрыемствы падаюць ведамствам або акруговым выканаўчым камітэтам у вызначаныя апошнімі тэрміны, але ня менш як адзін раз у год, зьвесткі паводле даданай да гэтых Правіл узорнай форме, якая можа зьмяняцца ведамствамі ў выпадках патрэбы.

## IV. Аб наглядзе Народнага Камісарыяту Фінансаў за выкананьнем пастановы Эканамічнай Нарады.

25. На органы Народнага Камісарыяту Фінансаў у цэнтры і на мясцох ускладаецца нагляд за выкананьнем установамі і прадпрыемствамі, якія знаходзяцца на бюджэце і на гаспадарчым разрахунку, пастановы Эканамічнай Нарады за 14-га красавіка 1927 г. у адносінах да падліку і рэалізацыі маемасьці, што належыць да дзяржаўных фондаў, а таксама неліквіднай і непатрэбнай маемасьці і нелік-

відпых фондаў. Гэты нагляд ажыцьцяўляецца спосабам пэрыядычных (1 раз у год) абсьледваньняў дзяржаўных установ і прадпрыемстваў, у якіх такая маемасьць і фонды могуць быць.

26. Прадстаўнікі Народнага Камісарыяту Фінансаў пры абсьледваньні дзяржаўных установ і прадпрыемстваў у адносінах да падліку і рэалізацыі паказанай у арт. арт. 6 і 12 маемасьці і неліквідных фондаў і скарыстаньня вырučаных ад рэалізацыі сум ня ўмешваюцца ў працу ўстаноў і прадпрыемстваў па выкананьні падліку і рэалізацыі і абмяжоўваюцца складаньнем акту аб знойдзеным, з паказаньнем у акце вынікаў абсьледваньня і тых прапаноў, якія па думцы абсьледвальніка патрэбны для выкананьня падліку і рэалізацыі.

27. Акты абсьледваньня складаюцца ў 4-х экзэмплярах, з якіх адзін пасылаецца ў Народны Камісарыят Фінансаў БССР і таму народнаму камісарыяту або акруговаму выканаўчаму камітэту, пад ведамам якіх знаходзіцца абсьледаваная ўстанова або прадпрыемства, адзін астаўляецца ў абсьледаванай ўстанове або прадпрыемстве і адзін перадаецца таму органу Народнага Камісарыяту Фінансаў, прадстаўнік якога рабіў абсьледваньне.

Начальнік Кіраўніцтва Дзяржаўнымі
Даходамі НКФ БССР **М. Абрамсон.**

Ст. Інспэктар Кіраўніцтва Дзяржаўнымі
Даходамі НКФ БССР **І. Хадаронак.**

---

## Ведамасьць аб руху падліку і

| Назва артыкулаў | Лічылася на 1/х ..............г. | | Зноў выяўлена або паступіла ад іншых трэстаў бяспл. | | Разам з астачаю | | Выбыла за .................. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Рэалізавана на сторану | | Пераліч. у ліквідны і выдатк. на свае патрэбы | | |
| | | | | | | | | | | З абавязк. адл. 50 проц. | |
| | Па балянс. ацэнцы | Па ацэнцы праэктуемай рэалізацыі | Па балянс. ацэнцы | Па ацэнцы праэктуемай рэалізацыі | Па балянс. ацэнцы | Па праэкт. рэаліз. каштоўнасьці | Па балянс. ацэнцы | Па фактыч, ацэнцы | Па балянс. каштоўн. без адліч. 50 проц. | Па балянс. кашт. | Па прыйм. ацэнц. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| **Матар'яльныя і таварныя каштоўн.** . | | | | | | | | | | | |
| Матар'ялы: | | | | | | | | | | | |
| а) аснаўныя . . . | | | | | | | | | | | |
| б) дапаможныя . | | | | | | | | | | | |
| в) іншыя . . . . . | | | | | | | | | | | |
| г) апал . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| д) ламаніна і адкід. | | | | | | | | | | | |
| е) запасныя часткі машын і прылад . . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| ж) паўфабрыкаты | | | | | | | | | | | |
| **Разам па матар'яльных і таварных каштоўнасьцях** . . | | | | | | | | | | | |
| Маемасныя каштоўнасьці: | | | | | | | | | | | |
| Будынкі і інш. пабудовы . . . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| Абсталяваньне і машыны . , . . . . . | | | | | | | | | | | |
| Начыньне. . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| Інвэнтар . . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| Транспарт . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| Запасн. абсталяван. | | | | | | | | | | | |
| Сілавыя ўстаноўкі . | | | | | | | | | | | |
| **Разам па маемасных каштоўнасьцях** . . | | | | | | | | | | | |
| **УСЯГО** . . . . . . . . . | | | | | | | | | | | |

Узгоднена з Народнымі Камісарыятамі: Земляробства, Аховы здароўя і Асьветы і Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

„Зацьвярджаю“.
Нам. Народнага Камісара фінансаў БССР **В. Мікуліч**.

## 4. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР.

АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 5-га КАСТРЫЧНІКА 1927 г. „ПРА ЛЬГОТЫ ДЛЯ БЫЎШЫХ ЧЫРВОНЫХ ПАРТЫЗАНАЎ І ІХ СЕМ'ЯЎ“.

§ 1. Да чырвоных партызанаў належаць тыя грамадзяне, якія хаця-б часова актыўна ўдзельнічалі ва ўзброенным змаганьні супроць абшарнікаў і капіталістаў і ў абароне заваёваў Кастрычнікавай Рэвалюцыі 1917 г.

§ 2. Льготы чырвоным партызанам і іх сем'ям, паказаныя ў пастанове Савету Народных Камісараў БССР за 5-га кастрычніка 1927 году, павінны давацца належнымі ўстановамі пасьля падачы пасьведчаньняў ад адпаведных ваенных органаў або раённых выканаўчых камітэтаў, а ў акруговых гарадох—ад гарадзкіх саветаў, у якіх павінны зьмяшчацца наступныя зьвесткі:

а) прозьвішча, імя і імя па бацьку партызана;

б) месца жыцьця (акруга, раён, сяло);

в) у працягу якога часу і ў якім партызанскім атрадзе знаходзіўся.

*Увага*. Паказаныя ў § 2 пасьведчаньні выдаюцца чырвоным партызанам на падставе дакумэнтаў, якія ў іх ёсьць, а калі такіх дакумэнтаў няма, то на падставе зьвестак, што зьбіраюцца органамі, на якія ўскладзена выдача пасьведчаньняў, пры гэтым апошнія могуць карыстацца для гэтага паказаньнем саміх партызанаў, а пры няпэўнасьці іх заявы—і паказаньнем ведаючых справу людзей.

§ 3. Усе органы, на якія ўскладаецца выдача чырвоным партызанам пасьведчаньняў на атрыманьне льготы (§ 2), павінны скласьці сьпісы на тых чырвоных партызанаў і іх сем'яў, якія карыстаюцца льготаю.

Гэтыя сьпісы надалей і будуць зьяўляцца падставаю для выдачы пасьведчаньняў на атрыманьне льготы.

У сьпісах трэба паказаць на якой падстава асобы, залічаныя да чырвоных партызанаў, запісаны ў сьпісы.

§ 4. Льготы чырвоным партызанам і іх сем'ям, паказаныя ў пастанове Савету Народных Камісараў БССР за 5 кастрычніка 1927 г., пашыраюцца на іх з моманту выданьня памянёнай пастановы.

### І. Льготы ў галіне працоўнага землякарыстаньня і сельскай гаспадаркі.

§ 5. Пры разьмеркаваньні зямель запаснага фонду, які ўтвараецца з зямель, выдзеленых са складу дзяржаўнай зямельнай маёмасьці, з абрэзкі гаспадарак, якія маюць лішкі зямлі апроч найбольшай нормы, і з перададзеных лясных плошчаў у землі сельска-гаспадарчага прызначэньня, чырвоным партызанам і іх сем'ям, пры іншых роўных умовах, даецца перавага, нароўні з чырвонаармейцамі, перад іншымі грамадзянамі.

§ 6. Хадакам па перасяленьні ад сем'яў, да складу якіх належаць чырвоныя партызаны, пры іншых роўных умовах, даецца, нароўні з чырвонаармейцамі, праважнае перад іншымі хадакамі права на атрыманьне хадацкіх пасьведчаньняў і льготнага праезду. Пры самым перасяленьні сем'ям чырвоных партызанаў, нароўні з сем'ямі чырвонаармейцаў, даецца перавага перад іншымі перасяленцамі, для чаго зямельныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў па паказаньнях Перасяленцкай Часьці Народн. Камісарыяту Земляробства ўстанаўляюць асобную чаргу для сем'яў чырвоных партызанаў.

§ 7. Для гаспадарак чырвоных партызанаў і іх сем'яў робіцца бясплатнае землеўпарадкаваньне.

§ 8. Усе спрэчныя зямельныя справы працоўных гаспадарак, да складу якіх належаць чырвоныя партызаны, разглядаюцца зямельнымі камісіямі ў сьпешным парадку.

§ 9. Земляўпарадчыя справы, якія вынікаюць з хадайніцтваў чырвоных партызанаў або членаў гаспадаркі, да якой належаць чырвоныя партызаны, нароўні з чырвонаармейцамі, ўключаюцца ў плян падрыхтоўчых работ праважна перад іншымі такімі—ж хадайніцтвамі, а падрыхтаваныя справы і прызнаныя належачымі да выкананьня ў натуры ўключаюцца ў плян правадзімых земляўпарадчых работ праважна перад іншымі такімі-ж работамі, і земляўпарадчыя часьці зямельных аддзелаў акруговых выканаўчых камітэтаў павінны ўстанаўляць асобную сьпешную чаргу для выкананьня такіх спраў.

§ 10. Лясныя матар'ялы могуць выдавацца на льготных умовах з зьніжэньнем такс і бясплатна, паводле пастаноў Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 14 чэрвеня і за 18 ліпеня 1927 г., а таксама паводле выданай для разьвіцьця іх інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства за 3 верасьня 1927 г.

§ 11. У выключных выпадках паказанае ў § 10 зьніжэньне такс можа быць даведзена да бясплатнай выдачы лесу ў залежнасьці ад сацыяльнага стану сям'і чырвонага партызана паводле пасьведчаньняў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, пацьверджаных раённымі выканаўчымі камітэтамі, а таксама ў залежнасьці ад гатоўкі, асыгнаванай на льготныя і бясплатныя выдачы лесу.

§ 12. Паказаныя ў §§ 10 і 11 льготы даюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі ў межах сум, якія вызначаюцца ім штогодна льготныя і бясплатныя выдачы лесу.

§ 13. Сплата, паводле арт. 97 Вэтэрынарнага Статуту БССР, за жывёлу, якая вылучаецца для забіцьця ў мэтах выяўленьня і спыненьня заразных хвароб або якая прапала ад прышчэпак пры гэтых хваробах, выдаецца чырвоным партызанам і іх сем'ям у першую чаргу, нароўні з чырвонаармейцамі.

§ 14. Уся вэтэрынарная лячэбная дапамога робіцца ў першую чаргу, і бясплатна нароўні з чырвонаармейцамі, а таксама бясплатна выдаюцца ўсе мэдыкамэнты, патрэбныя для лячэньня хворай жывёлы, калі гэтыя мэдыкамэнты ёсьць у данай вэтэрынарнай установе.

§ 15. Прылады і машыны з пракатных пунктаў зямельных органаў выдаюцца ў карыстаньне на пэўны час у першую чаргу, нароўні з чырвонаармейцамі, праважна перад іншымі асобамі з зьніжэньнем таксы за пракат інвэнтару на 50 проц., а ў выпадку няшчаснага становішча сям'і чырвонага партызана, пасьведчанага раённым выканаўчым камітэтам або камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, інвэнтар выдаецца ёй на пракат бясплатна.

§ 16. Калі ўстаноўлена бясплатная ачыстка збожжа для ўсіх катэгорый карыстальнікаў, то сем'ям чырвоных партызанаў даецца права рабіць ачыстку і сартаваньне насеньня ў першую чаргу, нароўні з чырвонаармейцамі.

§ 17. Чырвоныя партызаны і іх сем'і звальняюцца ад платы за злучку жывёлы на злучных пунктах усіх зямельных органаў і дзяржаўных конскіх заводаў.

§ 18. У тых акругах, дзе бярэцца плата за рэгістрацыю ўхваленай заводзкай жывёлы, сем'і чырвоных партызанаў плацяць 50 проц. устаноўленай платы, а бяднейшыя, паводле пасьведчаньняў камітэтаў сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі, зусім звальняюцца ад платы.

§ 19. Усе паказальныя заатэхнічныя мерапрыемствы зямельных органаў на сродкі дзяржаўнага бюджэту, напрыклад, паказальнае кармленьне жывёлы і перабудаваньне двароў для жывёлы, пры ажыцьцяўленьні якіх раздаецца бясплатна інвэнтар, прадметы абсталяваньня, палепшаны корм, а таксама ўзмацненьне агранамічнай дапамогі наогул праводзяцца ў гаспадарках чырвоных партызанаў у першую чаргу, нароўні з гаспадаркамі чырвонаармейцаў.

§ 20. Чырвоныя партызаны і іх сем'і карыстаюцца правам, нароўні з чырвонаармейцамі, на насенныя пазычкі.

§ 21. Чырвоным партызанам і іх сем'ям пры куплі жывога і мёртвага інвэнтару павінен у першую чаргу, нароўні з чыввонаармейцамі, давацца крэдыт на льготных умовах.

## II. Льготы па адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

§ 22. а) Чырвоныя партызаны і іх сем'і, даход ад гаспадарак якіх, падлічаны па пасельных сьпісах пры абкладаньні сельска-гаспадарчым падаткам, ня перавышае 180 р. на гаспадарку, а калі ёсьць 4 або больш едакоў—60 р. на едака, цалкам звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку.

б) Калі ж у гаспадарцы даход які абкладаецца падаткам перавышае 180 р. на гаспадарку, а калі ёсьць 4 або больш едакоў, – 60 р. на едака, то такія гаспадаркі, калі няма ў іх іншых працаздольных мужчын, апроч быўшага чырвонага партызана, звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку на 50 проц., а ўсе іншыя гаспадаркі на 25 проц.

## III. Льготы па падаходным падатку.

§ 23. Чырвоныя партызаны звальняюцца ад падаходнага падатку ў наступных выпадках:

а) калі яны, зьяўляючыся рамесьнікамі і саматужнікамі, не карыстаюцца наймоваю працаю;

б) калі яны самі бяз наймовай працы займаюцца дробнымі промысламі, ў тым ліку возьніцтвам;

в) калі яны, уладаючы будынкамі, займаюць іх выключна для свае сям'і і не здаюць у наймы паасобных кватэр.

*Увага.* Здача пакояў у сваёй кватэры не пазбаўляе чырвонага партызана праў на льготу.

§ 24. Чырвоныя партызаны не звальняюцца ад падаходнага падатку, калі яны атрымоўваюць даход ад асабістай працы не па найму, у выпадках, не прадугледжаных § 23 гэтай інструкцыі, або ад непрацоўных крыніц даходаў.

## IV. У галіне мясцовых падаткаў.

§ 25. Льготы чырвоным партызанам і іх сем'ям па мясцовых падатках і па зямельнай рэнце павінны давацца ў парадку, які вызначаны для дачы льгот чырвонаарейцам і іх сем'ям адпаведнымі палажэньнямі.

## V. У галіне абавязковага акладнага страхаваньня.

§ 26. Чырвоным партызанам і іх сьм'ям аклад страхавых плацяжоў па ўсіх відах акладнага страхаваньня зьніжаецца ад 25 проц. да 50 проц. на падставе існуючага парадку аб дачы льгот па абавязковым акладным страхаваньні.

*Увага.* Калі чырвоныя партызаны або іх сем'і ўваходзяць у склад калектыўнай гаспадаркі (арцелі, камуны і інш.) і свае асобнай гаспадаркі ня маюць, то калектыўнай гаспадарцы павінна быць дадзена зьніжэньне ад 25 проц. да 50 проц. акладу страхавых плацяжоў, якія прыпадаюць на долю кожнай, маючай правы на льготу сям'і чырвоных партызан, уваходзячай у склад калектыўнай гаспадаркі.

§ 27. Чырвоным партызанам і іх сем'ям можа быць дадзена большая льгота, чым прадугледжана § 26-м гэтай інструкцыі, або поўнае звальненьне ад акладных страхавых плацяжоў, на падставе льгот бяднейшаму насельніцтву, калі яны па стану іх гаспадарак належаць да беднаты.

## VI. У галіне народнай асьветы.

§ 28. Непаўналетнія члены сем'яў чырвоных партызанаў карыстаюцца наступнымі льготамі па народнай асьвеце:

I. Па сацыяльным выхаваньні:

а) прымаюцца ў першую чаргу, нароўні з членамі сям'яў чырвонаармейцаў, пасьля выхаванцаў дзіцячых дамоў, ва ўсе ўстановы сацыяльнага выхаваньня (дзіцячыя сады, дзіцячыя дзённыя прытулкі, дзіцячыя дамы, установы для дэфэктыўных і розныя школы);

б) звальняюцца ад платы за навучаньне ў гэтых установах, дзе такая плата бярэцца.

II. Па прафэсіянальна-тэхнічнай асьвеце:

а) чырвоныя партызаны, а таксама і іх дзеці прымаюцца ва ўсе ўстановы прафэсіянальна-тэхнічнай асьветы ў першую чаргу, нароўні з чырвонаармейцамі і іх дзяцьмі, пры умове, што яны здадуць устаноўленыя экзаміны;

б) пералічаным у папярэднім пункце асобам ва ўсіх установах прафэсіянальна-тэхнічнай асьветы, пры іншых роўных умовах з другімі слухачамі, даюцца ў першую чаргу стыпэндыі, нароўні з чырвонаармейцамі і іх дзяцьмі;

в) пералічаныя ў п. „а" асобы пры звальненьні ад платы за навучаньне ва ўсіх прыватных установах, падпарадкаваных Галоўнаму Кіраўніцтву Прафэсіянальна-Тэхнічнай Асьветы, дзе такая плата бярэцца, звальняюцца ад платы ў першую чаргу, нароўні з чырвонаармейцамі;

г) дзеці пералічаных у п. „а“ чырвоных партызанаў звальняюцца ад платы за навучаньне ва ўсіх установах прафэсіянальна тэхнічнай асьветы, дзе такая плата бярэцца.

## VII. Льготы ў галіне аховы здароўя.

§ 29. Чырвоныя партызаны і іх сем'і карыстаюцца бясплатна ўсімі відамі лячэбнай дапамогі ва ўсіх грамадзкіх, лячэбных і лячэбнапрафілактычных установах, а іменна:

а) першапачатковаю дапамогаю пры раптоўнай хваробе і няшчасных здарэньнях у пунктах неадкладнай дапамогі;

б) амбуляторным лячэньчем па ўсіх спэцыяльнасьцях у лячэбніцах для прыходзячых, паліклініках, амбуляторыях пры больніцах і інш.;

в) лячэньнем зубоў і зубатэхнічнаю дапамогаю;

г) акушорскаю дапамогаю ў радзільных прытулках і на спэцыяльных ложках;

д) больнічным лячэньнем і поўным утрыманьнем хворых у лячэбных установах;

е) лекарскаю дапамогаю на даму ў выпадку вялікай патрэбы;

ж) дапамогаю ўстаноў па змаганьні з сацыяльнымі хваробамі (сухотных, вэнэралёгічных і інш. дыспансэраў), кліматычным і кумысным лячэньнем і інш. па нормах, устаноўленых Народным Камісарыятам Аховы Здароўя;

з) дапамогаю ўстаноў для дэлечваньня (санаторый, курортаў, мэдыка-мэханічных і фізыо-тарапэўтычных інстытутаў і лячэбніц) па нормах, устаноўленых Народным Камісарыятам Аховы Здароўя;

і) дапамогаю ўстаноў па ахове мацяры і дзіцяці (ясьлі, кансультацыі і інш.);

к) пратэзнаю дапамогаю на агульных падставах з застрахаванымі інвалідамі працы;

л) дапамогаю дыагнастычных устаноў (лабараторый, рэнтгенаўскіх габінэтаў).

*Увага.* Члены сем'яў чырвоных партызанаў павінны мець пры сабе дакумэнты аб тым, што яны належаць да сям'і чырвонага партызана.

§ 30. Акруговым выканаўчым камітэтам у паасобных выпадках дазваляецца пашыраць вышэй пералічаныя льготы ў адносінах да тых чырвоных партызанаў, якія маюць асаблівыя заслугі перад Сацыялістычнаю Рэвалюцыяю.

§ 31. Усе паказаныя вышэй льготы чырвоным партызанам і іх сем'ям павінны давацца ім належнымі ўстановамі па лініі адпаведных камісарыятаў.

§ 32. На адмаўленьне ў дачы льгот або на няправільную дачу льготы дазваляецца падаваць скаргі ў наступным парадку: на раённыя ўстановы скаргі падаюцца ў раённы выканаўчы камітэт, а на пастановы апошняга і на акруговыя ўстановы—ў акруговы выканаўчы камітэт, пастановы якога зьяўляюцца канчатковымі.

Паказаныя вышэй скаргі зьвальняюцца ад аплаты іх гэрбавым зборам і павінны разглядацца і вырашацца неадкладна і ня пазьней, як на працягу трох дзён.

§ 33. Льготы даныя чырвоным партызанам і іх сем'ям, якія жывуць у раёнах, павінны падлічвацца раённымі выканаўчымі камітэтамі, а ў акруговых гарадох—акруговымі выканаўчымі камітэтамі, на падставе зьвестак ад органаў, якімі беспасрэдна даюцца льготы.

Начальнік Падатковага Кіраўніцтва
Н. К. Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

Сакратар Падатковага Кіраўніцтва
Н. К. Фінансаў БССР **У. Пятрыкоўскі.**

20 кастрычніка 1927 г.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УВЯДЗЕНЬНІ Ў СІЛУ НА ТЕРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ СССР ЗА 30 ЖНІЎНЯ 1927 г. № 256 „ВРЕМЕННЫЕ ПРАВИЛА БЕЗОПАСНОСТИ ПРИ УСТРОЙСТВЕ И СОДЕРЖАНИИ ПЕРЕДАЮЩИХ И ПРИЕМНО-ПЕРЕДАЮЩИХ РАДИО-СТАНЦИЙ“.

На падставе арт. 39 абавязковай пастановы Н. К. Працы СССР за 30 жніўня 1927 г. № 256 „Временные правила безопасности при устройстве и содержании передающих и приемно-передающих радио-станций“ („Изв. НКТ СССР“ 1927 г., № 42) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўвесьці паказаную вышэй абавязковую пастанову ў сілу на тэрыторыі БССР з моманту апублікаваньня.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Н. К. Працы БССР **А. Круглік.**

12 лістапада 1927 г.
№ 85.

---

## 6. Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР

АБ ЗЬМЕНАХ У ПАЯСНЫМ ДЗЯЛЕНЬНІ БССР.

З тае прычыны, што ўстаноўленае Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня, паясное дзяленьне для БССР ў адных акругах зьніжае разьмеры дапамог беспрацоўным, а ў другіх павялічвае нормы дапамог на догляд і кармленьне, Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня, лічачы немагчымым зьніжэньне дапамогі беспрацоўным і немэтазгодным павялічэньне норм дапамог на догляд і кармленьне, пастанаўляе:

1. Прызнаць патрэбным прылічыць БССР у адносінах да забесьпячэньня беспрацоўных да наступных паясоў:

а) гарады Менск, Віцебск і Гомель—да IV поясу;

б) іншыя акруговыя гарады, а таксама Барысаў, Рэчыцу, Добруш і рабочыя пасёлкі ўсіх акруг—да V поясу;

в) для сельскіх мясцовасьцяй усіх акруг устанавіць 25 проц. зьніжэньне супроць ставак V поясу.

*Увага 1.* Да рабочых пасёлкаў прылічыць: зав. імя Леніна Пухавіцкага раёну Менскай акр., Ноўкі, Высачаны, Пудаць і м-ка Чашнікі Віцебскай акр., зав. „Камінтэрн“ і „Кастрычнік“

Бабруйскай акр., зав. „Ільліч“ і м. Шклоў Магілеўск. акр., м-кі Барань, Копысь і Дуброўна Аршанскай акр., зав. „Труд“ Полацкай акр., зав. „Зьвязда“ і „Труд“ Мозырскай акр.

*Увага 2.* Рабочыя прыгарады атрымоўваюць усе віды дапамогі па стаўках свайго акруговага гораду бяз зьніжэньня.

2. Розьніцу паміж старымі і новымі стаўкамі, на падставе паказанага ў арт. 1-м гэтай пастановы паяснога дзяленьня, выплачваць у разьмеры 75 проц.

3. Калі паказанае ў арт. 1-м гэтай пастановы паяснае дзяленьне зьмяншае разьмеры дапамогі для беспрацоўных 3 гр. супроць старой стаўкі 2 групы ў той-жа мясцовасьці і з тым-жа лікам утрыманцаў, то пакінуць ранейшы разьмер дапамогі 2 групы бяз зьніжэньня.

4. Перайсьці на выплату дапамог на падставе арт. арт. 1, 2 і 3 гэтай пастановы з 1 кастрычніка 1927 г.

5. У адносінах да разьмераў максімумаў і мінімумаў пэнсій і максімумаў дапамогі з прычыны часовай непрацаздольнасьці, а таксама дапамогі на пахаваньне пакінуць стаўкі, уведзеныя ужо для БССР на падставе паяснога дзеленьня ўстаноўленага Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня.

*Увага 1.* Рабочыя пасёлкі, пералічаныя ва ўвазе 1 да арт. 1 гэтай пастановы, прылічыць да VI поясу без працантавага зьніжэньня.

*Увага 2.* Раённыя гарады: Чэрвень і Койданаў Менскай акругі, Гарадок і Сенна Віцебскай акругі, Рагачоў, Жлобін і Слуцак Бабруйскай акругі, Быхаў і Клімавічы Магілеўскай акр., Горкі Аршанскай акругі, Дрыса і Лепель Полацкай акругі, Петрыкаў і Калінкавічы Мазырскай акругі—прылічыць да VI поясу з зьніжэньнем на 15 проц.

*Увага 3.* Усе іншыя мясцовасьці ўсіх акруг прылічыць да VI поясу з зьніжэньнем на 25 проц.

6. Разьмеры дапамог на догляд і кармленьне пакінуць тыя, якія існавалі на 1 кастрычніка 1927 году.

7. Галоўнае Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня павінна распрацаваць табліцы норм дапамог беспрацоўным і па дадатковых відах забесьпячэньня, а таксама табліцы максімумаў і мінімумаў пэнсій і максімуму дапамогі па часовай непрацаздольнасьці для ўсіх акруг і паасобных абумоўленых у пастанове мясцовасьцяй.

8. Галоўнае Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня павінна выправіць бюджэт у суадносінах з зьменаю сумы выдаткаў на беспрацоўе і на дадатковыя віды дапамогі і падаць ў Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня прапановы аб магчымасьці скарачэньня выдаткаў па іншых артыкулах.

Старшыня Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага
Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР **Р. Алесін.**

Сакратар Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага
Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР **П. Багушэўскі.**

23 кастрычніка 1927 г.

## 17. Правілы паляваньня на тэрыторыі БССР, выдадзеныя Лясным Аддзелам Народнага Кам'сарыяту Земляробства БССР на падставе пастаноў СНК БССР за 19 студзеня 1923 г. і за 2-га ліпеня 1925 г.

### Агульныя палажэньні.

§ 1. Дзікія зьверы і птушкі, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, зьяўляюцца ўласнасьцю Рэспублікі і правільнае іх скарыстаньне складае адну з галін дзяржаўнай гаспадаркі БССР.

§ 2. Паляўнічая прамысловасьць выяўляецца ў разьвядзеньні ахове і правільным скарыстаньні дзікіх зьвяроў і птушак з абавязковаю ўмоваю захаваньня патрэбнай для пашырэньня гаспадаркі колькасьці вытворцаў.

§ 3. Паляваньнем лічыцца лоў і забіваньне дзікіх зьвяроў і птушакі незабароненымі гэтымі правіламі спосабамі і прыладамі, ў законныя тэрміны і наогул, з захаваньнем усіх выдадзеных для гэтага пастаноў.

§ 4. Правам на паляваньне карыстаюцца ўсе паўналетнія грамадзяне, якія маюць пасьведчаньні на права паляваньня ад Беларускага Саюзу Паляўнічых з даведкаю аб выплаце існуючых для гэтага збораў.

*Увага 1.* Лясная адміністрацыя і лясная варта выбіраюць пасьведчаньні на права паляваньня на агульных падставах, але яны звальняюцца ад выплаты ўстаноўленага паляўнічага збору.

*Увага 2.* Чырвонаармейцы, камандны, адміністрацыйны, палітычны, мэдэцынскі і вэтэрынарны склад Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, Флёту і Міліцыі, а таксама асобы, якія знаходзяцца на сацыяльным забесьпячэньні, звальняюцца ад платы дзяржаўнага паляўнічага збору.

§ 5. Білеты на права паляваньня выдаюцца Беларускім Саюзам Паляўнічых адзінага ўзору па БССР паводле сьпісу, зацьверджанага акруговымі зямельнымі аддзелам.

§ 6. Зарэгістраваная паляўнічая зброя, агнястрэльныя прыпасы да яе ў колькасьці, якая ня перавышае норму гадовай патрэбы, і ўсе незабароненыя прылады лову могуць быць канфіскаваны ў паляўнічага ня іначай, як у судовым парадку.

§ 7. Знаходжаньне асоб, якія ня маюць праў на паляваньне, са зброяю або з прыладамі лову па-за дарогамі грамадзкага карыстаньня і па-за належачымі ім садамі і гародамі лічацца паляваньнем.

§ 8. Асобы, вінаватыя ў парушэньні гэтых правіл, прыцягваюцца да адказнасьці паводле Крымінальнага Кодэксу.

### Тэрміны і спосабы паляваньня.

§ 9. У інтарэсах захаваньня птушак і разьвядзеньня дзічыны забараняюцца:

а) паляваньне на баброў, зуброў, аленяў, лосяў, дзікіх коз, куніц, дропаў і глушцоў на працягу круглага году, а таксама на вавёрак, пачынаючы з 16-га лютага 1928 году;

б) паляваньне небясьпечнымі спосабамі, напрыклад: настаражваньне стрэльбаў і самастрэлаў, падпальваньне травы і іншыя, капаньне ям і раскіданьне атруты;

в) ужываньне прылад і спосабаў масавага лову зьвяроў і птушак, напрыклад: шатроў, цянётаў, загародаў, заганяньне на шарун, на лёд і на скошаны чарот, а апроч таго лоўля ліняючых або абмёрзлых пры галалёдзе птушак, начны лоў з агнём і паляваньне на статкавую жывёлу пры пераправах праз воду;

г) раскідваньне птушыных гнёзд і выбіраньне з іх яец, лоўля птушанят і маладых зьвяроў, а таксама выкапваньне зьвяроў з нораў і разбурэньне іх нораў, апроч воўчых;

д) лоў зьвяроў і птушак прыладамі, якія душаць або псуюць, напрыклад: петлямі, сілкамі, плашкамі, снасьцямі, жалезнымі слонцамі, пасткамі птушыным клеям, а таксама падкрадваньне пры дапамозе кабылкі або шчыту;

е) паляваньне на зайцаў на прынадзе, з пад'езду і аблаўным спосабам выключна на зайцаў з загоншчыкамі і ў час аблаў на ваўкоў;

ж) лоў і забіваньне птушак, апроч паказаных у § 10;

з) вясеньняе паляваньне на ўсе віды дзічыны;

і) усякае паляваньне ў заказьніках і запаведніках, апроч навуковага, якое дазваляецца ў кожным асобным выпадку Народным Камісарыятам Земляробства з візаю Беларускага Саюзу Паляўнічых, і зьнішчэньня шкодных драпежнікаў устаноўленымі способамі.

§ 10. Паляваньне дазваляецца:

а) на ваўкоў, рысяў, брадзячых сабак і катоў, суслакоў, шашкоў, а таксама на арлоў, куратнікаў, каршуноў, пугачоў, балотных шулякоў, крумкачоў, варон і сарок на працягу ўсяго году ўсімі законнымі спосабамі;

б) на ўсю балотную і вадзяную дзічыну з 1-га жніўня па 15-га лютага;

в) на цецярукоў, пардву, рабцоў, перапёлак і дзікіх галубоў з 1-га жніўня па 15 лютага;

г) на курапатку (шэрую) з 15 верасьня па 15 лістапада;

д) на зайцоў і лісоў з 1-га кастрычніка па 15 лютага;

е) на выдру, норыцу, гарнастая і ласку з 1-га сьнежня па 15 лютага.

*Увага.* Паляваньне на мядзьведзяў і дзікоў можа рабіцца толькі з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства паводле хадайніцтва Кіраўніцтва Беларускага Саюзу Паляўнічых.

§ 11. Паляваньне з сабакамі дазваляецца:

а) на птушак з выжламі з 1-га жніўня на 15-ае лютага і на вадаплаваючых птушак з гончымі сабакамі з 1-га жніўня па 15 лютага;

б) на зьвяроў, апроч забароненых п. „а“ § 9-га гэтых правіл, з гончымі сабакамі з 1-га кастрычніка па 15 лютага.

*Увага 1.* На летніх аблавах на ваўкоў у маі, чэрвені і ліпені дазваляецца мець гончых сабак, якія гоняць ваўкоў.

*Увага 2.* Забараняецца забіваньне зьвяроў і дзічыны з пад чыжых сабак бяз згоды ўласьніка.

§ 12. Навучаньне выжлаў бяз стрэльбы ня лічыцца паляваньнем. Нaганяньне гончых сабак (бяз стрэльбы) дазваляецца з 1-га верасьня.

*Увага.* Наганяньне гончых сабак, калі для гэтага адведзена асобнае месца, можа дазваляцца з 1-га жніўня пры ўмове забароны ў гэтых угодзьдзях усякага паляваньня на круглы год.

§ 13. Брадячыя сабакі і каты прылічаюцца да шкоднай жывёлы і павінны зьнішчацца на працягу цэлага году.

*Увага.* Дваровыя сабакі павінны трымацца на прывязі і выводзіцца толькі на прывязі або з намызьнікамі. Усе сабакі, якія знаходзяцца па-за дварамі без намызьнікаў, павінны зьнішчацца пры ўсялякіх умовах і усімі спосабамі, апроч атруты, як спосабу агульна-небясьпечнага. У раёнах, дзе вельмі многа ваўкоў, дазваляецца мець сабак пры статку на прывязі.

§ 14. Сабакі паляўнічай пароды ў недазволены для паляваньня час павінны затрымоўвацца і дастаўляцца ў бліжэйшую паляўнічую арганізацыю, якая, калі ўласьнік вядомы, аддае сабаку апошняму пры адплаце кошту яе ўтрыманьня.

## Гандаль забітаю дзічынаю.

§ 15. Забараняецца гандаль сьвежа-забітаю дзічынаю і сьвежазьнятаю скураю пушных зьвяроў пасьля зыходу 10-ці дзён ад дня канца тэрміну паляваньня на дадзеную дзічыну або пушнага зьвера.

§ 16. Зусім забараняецца купля і продаж забітай на тэрыторыі БССР дзічыны і пушнай жывёлы, якая паводле гэтых правіл няможа забівацца.

Парушэньне гэтага правіла, апроч пакараньня, выклікае адабраньне ўсяго нёправільна-здабытага.

§ 17. На падставе хадайніцтваў Акадэміі Навук, Сельска-Гаспадарчага Вучэбнага Камітэту Народнага Камісарыяту Земляробства, Унівэрсытэтаў і інных вышэйшых навучальных устаноў, гэаграфічных і іншых навуковых таварystваў Лясны Аддзел пры Народным Камісарыяце Земляробства выдае асобнае пасьведчаньне на права забіваньне зьвяроў і птушак з навуковымі мэтамі, а таксама на лоўлю іх для выхавальнікаў, заалёгічных садоў і інш. У такіх пасьведчаньнях паказваецца асоба, якой яно выдаецца, раён і тэрмін яго правадзейнасьці, мэта і колькасьць дзічыны, дазволенай да забіваньня або лоўлі. Тэрміны і спосабы паляваньня, не пашыраюцца на асоб, атрымаўшых такія пасьведчаньні, апроч паляваньня ў запаведніках і заказьніках, калі апошняе не абумоўлена. Асоба, атрымаўшая пасьведчаньне, павінна зарэгістраваць яго ў Кіраўніцтве Беларускага Саюзу Паляўнічых.

§ 18. Беларускі Прамыслова-Каперацыйны Саюз Паляўнічых пасьля зацьверджаньня Народным Камісарыятам Земляробства мае права самастойна арганізоўваць паляўнічыя заказьнікі, забараняючы ў іх на пэўны тэрмін паляваньне на ўсе і некаторыя віды зьвяроў і птушак, прадоўжваць устанўленыя тэрміны ахвы зьвяроў і птушак або скасоўваць дазволеныя спосабы і прылады паляваньня, забараняць перавозку і продаж або абмен прадуктаў паляваньня.

*Увага.* Памянёныя вышэй мясцовыя забароны перавозкі, продажу або абмену прадуктаў паляваньня могуць мець характар толькі агульнай роўнай для ўсіх меры для данай мясцовасьці, якая накіравана да аховы або размнажэньне якой-не-

будзь карыснай або каштоўнай жывёлы, але ніякім чынам ня могуць накіроўвацца да абмежаваньня правоў і інтарэсаў адных асоб і груп насельніцтва на карысьць другіх.

§ 19. Лясной адміністрацыі і паляўнічым аб'яднаньням даецца права праз Народны Камісарыят Земляробства ўваходзіць у заканадаўчыя ўстановы з хадайніцтвам аб устанаўленьні паляўнічых запаведнікаў на наступных падставах:

а) граніцы запаведнікаў дакладна ўстанаўляюцца Народным Камісарыятам Земляробства і аб'яшчаюцца да агульнага ведама праз апублікаваньне ва ўстаноўленым парадку;

б) у запаведніках забараняецца назаўсёды паляваньне ўсялякімі спосабамі і на ўсіх зьвяроў і птушак і іншую жывёлу, а карыстаньне ўгодзьдзямі можа быць абмяжована да граніц, якія не павінны аціжарваць ахову запаведнікаў;

в) вінаватыя ў парушэньні паказаных забарон прыцягваюцца да адказнасьці паводле Крымінальнага Кодэксу.

*Увага.* Знаходжаньне ў запаведніку і ў заказьніку або паза дарогамі грамадзкага карыстаньня з паляўнічаю агнястрэльнаю зброяю, якая можа служыць для паляваньня, альбо з прыладамі лову зьвяроў і птушак, з сабакаю, або злоўчымі прынаднымі зьвярамі і птушкамі прыроўніваецца да паляваньня.

г) нагляд за захаваньнем правіл аб паляўнічых запаведніках, а таксама прыцягваньне вінаватых да адказнасьці ўскладаецца, побач з органамі ўлады, на адміністрацыю запаведнікаў, членаў Саюзу Паляўнічых і на органы лясной адміністрацыі і варты (лясьнічых, аб'ездчыкаў і лясьнікоў);

д) парадак вядзеньня ў запаведніках паляўнічай гаспадаркі вызначаецца асобнымі для кожнага запаведніку інструкцыямі, якія апрацоўваюцца Народным Камісарыятам Земляробства БССР.

§ 20. З часу выданьня гэтых правіл правілы за 17 лютага 1927 году трацяць сілу.

Загадчык Ляснага Аддзелу
Народнага Камісарыяту
Земляробства БССР **В. Ткачоў.**

Інспэктар—Эканаміст па
лясной эксплёатацыі **Я. Седашоў.**

12 кастрычніка 1927 г.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ НОВАГА СТАТУТУ АБ ГЭРБАВЫМ ЗБОРЫ.

*Акруговым пракурорам і старшыням акруговых судоў.*

Парадак аплаты дакумэнтаў гэрбавым зборам з 1-га кастрычніка 1927 г. прадугледжваецца новым статутам аб гэрбавым зборы за 14 верасьня 1927 г., які апублікованы ў газэце „Известия ЦИК СССР и ВЦИК", №№ 215 і 216 за 20 і 21 верасьня 1927 г.

Гэты статут значна зьмяняе і спрошчвае правілы гэрбавага абкладаньня, якія існавалі да 1-га кастрычніка 1927 г.

Асабліва значна зьменены парадак аплаты гэрбавым зборам дакумэнтаў, якія пералічаны ў асобным таблі, зьмешчаным у дадатку 1-м да статуту.

Як напрыклад, можна адзначыць, што, паводле новага статуту, неабкладаюцца гэрбавым зборам дагаворы куплі-продажу (апроч бу-

дынкаў), дастаўкі, падраду, камісіі і пазычкі (апроч вэксалёў), незалежна ад таго, кім і каму гэтыя дакумэнты выдаюцца.

Памянёны табаль аб дакумэнтах, якія аплачваюцца гэрбавым зборам, зьяўляецца вычэрпаваючым, г. зн. дакумэнты, якія ў ім ня зьмешчаны, гэрбавым зборам не аплачваюцца.

З гэтай прычыны з 1-га кастрычніка 1927 г. дагаворы, рахункі, фактуры, квіткі і інш. па куплі-продажы, дастаўцы, падраду, наймањьні на розныя работы, дакумэнты па пазычцы (апроч вэксалёў) і г. д. гэрбавым зборам не аплачваюцца. Толькі тыя дакумэнты, якія выдадзены, прыняты і зроблены да часу выданьня новага статуту, аплачваюцца гэрбавым зборам паводле гэтага статуту, пры гэтым дакумэнты па дагаворах з нявызначанаю сумаю, якія зроблены да часу выданьня новага статуту, аплачваюцца гэрбавым зборам паводле гэтага статуту толькі па суме выкананьня іх за час яго дзеяньня.

Што тычыцца простага гэрбавага збору, то для аплаты заяў астаецца стаўка 1 р., апроч пісьмовых і тэлеграфных заяў аб выдачы выпісаў аб нараджэньні і сьмерці, якія абкладаюцца ў разьмеры 15 кап., стаўка-ж 1 р. 65 кап. для заяў касуецца.

Дакумэнты, як агульнае правіла, аплачваюцца гэрбавым зборам ня ў момант падпісаньня або выдачы, як гэта было пры старым статуце, а на працягу двух тыдняў ад дня ўчыненьня дакумэнтаў, апроч выпадкаў, паказаных у арт. 29—34 новага статуту.

Каральныя артыкулы таксама значна зьменены: фінансавым органам дадзена права накладаць на прыватных асоб штрафы ня больш павялічанага ў дзесяць разоў разьмеру незаплачанага, недаплачанага або несваячасна заплачанага збору, а за парушэньні правіл фармальнага характару—ня больш нармальнага разьмеру гэрбавага збору, заплачанага з парушэньнем гэтых правіл. Такім чынам, фінансавыя органы пры накладаньні штрафу маюць права зьменшыць яго разьмер у залежнасьці ад акалічнасьцяй справы. Што тычыцца службовых асоб дзяржаўных устаноў, то, паводле новага статуту, яны грашовай адказнасьці не нясуць, а адказваюць толькі ў дысцыплінарным парадку, пры гэтым да адказнасьці прыцягваюцца тыя асобы, на якіх ускладзены нагляд за аплатаю дакумэнтаў гэрбавым зборам.

Зварочваючы ўвагу на паказаныя вышэй найбольш значныя асаблівасьці новага статуту аб гэрбавым зборы, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе няўхільна кіравацца паказаным статутам, а таксама назначыць асоб, на якіх па данай установе ўскладаецца нагляд за аплатаю дакумэнтаў гэрбавым зборам і якія з гэтай прычыны павінны адказваць за невыкананьне правіл гэрбавага статуту.

Урэшце трэба заўважыць, што ў практыцы здараюцца выпадкі калі пісьмовыя заявы дзяржаўных прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку (трэсты, сындыкаты, заводы і інш.), не аплачваюцца гэрбавым зборам з тае прычыны, што паказаныя заявы з штампам прадпрыемства разглядаюцца як адносьнікі дзяржаўных ўстаноў, якія не павінны аплачвацца гэрбавым зборам. Гэта зьяўляецца няправільным, і кожны адносьнік дзяржаўнага прадпрыемства, што знаходзіцца на гаспадарчым разрахунку, які падаецца ў інтарэсах прадпрыемства, павінен аплачвацца гэрбавым зборам у разьмеры 2 руб. (на заяву і адказ), апроч тых папер, якія прадпрыемствы павінны падаваць абавязкова, напрыклад, справаздачы, адказы на запытаньні дзяржаўных устаноў і інш.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

№ 92.

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПРАВЕ СУДОЎ ПРЫПЫНЯЦЬ НА ЗІМНІ ЧАС ВЫКАНАНЬНЕ ПАСТАНОЎ АБ ВЫСЯЛЕНЬНІ ПРАЦОЎНЫХ З ЗАНЯТЫХ ІМІ ПАМЯШКАНЬНЯЎ ЗА НЯПЛАТУ ЗА КВАТЭРЫ.

*Усім акруговым судом і пракурорам.*

Паводле літ. „д" пункту 1-га пастановы ЦВК і СНК БССР „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках" дазваляецца высяленьне праз суд працоўных тады, калі яны не плацілі за кватэру на працягу двох месяцаў пасьля таго, як настаў час платы.

Тэрмін высяленьня ў такіх выпадках можа выпасьці і на зімовы час. Гэта вельмі часта можа зрабіць надзвычайна цяжкім становішча для працоўных тых катэгорый, якія пералічаны ў першым абзацы літ. „д" арт. 1 паказанай вышэй пастановы „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках" таму, што шуканьне кватэры ў зімовы час бывае ці немагчымым, ці вельмі цяжкім.

Суды, пры вынясеньні пастаноў аб высяленьні за няплату кватэрнай платы асоб, пералічаных у першым абзацы літ. „д" п. 1 пастановы аб высяленьні, павінны браць пад увагу фактычнае становішча адказчыка па справе. Пры гэтым, калі суд ведае, што адказчык—працоўны фактычна ня мае куды перасяліцца, што адказчык мае вялікую сям'ю або непаўналетніх дзяцей і што ён не зьяўляецца заўзятым і злоўмысным няплатнікам і г. д., суд мае права на падставе арт. 182 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу адкласьці тэрмін выкананьня свае пастановы аб высяленьні на такі час, каб высяленьне не рабілася у пэрыад з 1 лістапада па 1 красавіка.

Час. вык. аб. Народнага Камісара
Юстыцыі і Пракурора Рэспублікі БССР **С. Гохман.**

31 кастрычніка 1927 г.
№ 95.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПАРАДКУ НАЗНАЧЭНЬНЯ РАЗГЛЯДУ СПРАЎ У КАСАЦЫЙНЫХ ІНСТАНЦЫЯХ АКРУГОВЫХ СУДОЎ.

*Усім акруговым і народным судом.*

Існуючы парадак назначэньня разгляду спраў у касацыйных інстанцыях акруговых судоў праз пасылку павестак старанам канцылярыямі акруговых судоў зварочвае на сябе увагу ў тым сэнсе, што гэты парадак не адпавядае прынцыпу скарачэньня працэсу і выклікае ў некаторых выпадках лішнюю трату сродкаў.

З гэтай прычыны ў некаторых акруговых судох, напрыклад, у Гомельскім, Бабруйскім і Аршанскім, быў заведзены новы парадак назначэньня такіх спраў на разгляд, які павінен быў адхіліць адзначаныя недахопы.

Гэты парадак выяўляецца ў тым, што ўсе справы, якія павінны разглядацца ў касацыйных інстанцыях акруговых судоў, назначаюцца на разгляд не канцылярыямі акруговых судоў, а народнымі судамі, якія разгледжаныя імі і абскарджаныя справы назначаюць на разгляд у акруговым судзе на наперад вызначаныя акруговым судом

дні пасяджэньняў касацыйных інстанцый акруговага суду, расклад якіх, а таксама і колькасьць спраў, якая можа быць назначана на паасобныя дні пасяджэньня, паведамляецца акруговым судом усім народным судом.

Практыка ажыцьцяўленьня гэтага парадку ў паказаных акруговых судох выявіла поўную яго мэтазгоднасьць.

Бяручы пад увагу ўсё паказанае вышэй, Народны Камісарыят Юстыцыі, лічачы магчымым пашырэньне гэтага парадку на ўсе акруговыя суды, прапануе наступнае:

1. Назначаць разгляд спраў у касацыйных калегіях акруговых судоў павінны не акруговыя суды, а тыя народныя суды, якія разглядалі справу ў якасьці 1-й інстанцыі.

2. Для ажыцьцяўленьня гэтага парадку касацыйныя інстанцыі акруговых судоў павінны: а) пэрыадычна распрацоўваць каляндарны расклад дзён сваіх судовых пасяджэньняў, паводле дадanaй да гэтага абежніку формы, як на больш—менш значны пэрыяд часу, напрыклад, на квартал году або на паўгодзьдзе, паказаўшы ў ім паасобныя дні пасяджэньняў кожнай касацыйнай калегіі і колькасьць спраў, і якую кожны народны суд мае права назначыць на кожнае пасяджэньне кожнай калегіі; б) паведамляць гэты расклад загадзя, не пазьней, як за месяц да 1-га па раскладу дня судовага пасяджэньня, усім народным судом і в) забясьпечыць народныя суды блянкамі павестак аб выкліканьні старон у акруговы суд.

3. Народны судзьдзя зараз-жа пасьля атрыманьня скаргі па разгледжанай ім справе разам з скаргаю назначае гэтую справу на разгляд адпаведнай касацыйнай інстанцыі акруговага суду на адзін з дзён пасяджэньняў гэтай інстанцыі паводле раскладу іх, які паказан у папярэднім пункце, і адначасна паведамляе аб гэтым стораны па справе або праз узяцьця ад іх расьпісак, калі адна або абедзьве стораны прысутнічаюць пры падачы скаргі, або праз пасылку ім павестак ва ўстаноўленым законам парадку, абвяшчаючы аб дні разгляду справы ў акруговым судзе і прапануючы органу, якому будзе даручана ўручэньне павестак, расьпіскі старон аб атрыманьні павестак падаць беспасрэдна ў акруговы суд.

*Увага 1.* Гэты парадак не пашыраецца на прыватныя скаргі па крымінальных справах, па якіх павесткі, паводле арт. 431 КПК, не пасылаюцца і якія з гэтай прычыны назначаюцца на разгляд беспасрэдна самым акруговым судом, абавяшчаючы аб дні разгляду справы парадкам, паказаным у гэтым артыкуле.

*Увага 2.* Пры атрыманьні скарг па грамадзянскіх справах і пры назначэньні іх на разгляд у касацыйнай інстанцыі акругавага суду народны судзьдзя павінен строга наглядаць за спагнаньнем усіх збораў і за захаваньнем правіл аб уручэньні копій супрацiўнай старане.

4. Справы на разгляд у парадку, паказаным у папярэднім пункце, павінны назначацца самым народным судзьдзёю з такім разьлікам, каб назначаная на разгляд справа магла-б дайсьці да акругавага суду не пазьней, як за тыдзень да дня разгляду яе ў акруговым судзе, і каб да гэтага дня акруговы суд мог атрымаць расьпіскі старон аб атрыманьні імі павестак і далучаных да іх у адпаведных выпадках (па грамадзянскіх справах) копій супраціўнай старане.

5. Назначаная народным судзьдзёю на разгляд у акруговым судзе справа разам з далучанаю да яе скаргаю павінна быць накірована ў акруговы суд, паводле арт. арт. 344 КПК і 282 ГПК, не

пазьней, як на працягу трох дзён ад дня атрыманьня скаргі, паказаўшым у адносьніку, пры якім будзе накіроўвацца справа ў акруговы суд: а) тэрмін, на які назначана справа на разгляд у акруговым судзе і б) каму, калі і з якім № даручана ўручэньне павестак старанам і копіі скаргі супраціўнай старане (па грамадзянскіх справах), а калі такое ўручэньне зроблена асабіста народным судзьдзёю, то адзнакі аб гэтым з паказаньнем, што адпаведныя расьпіскі старон далучаны да справы.

*Увага 1.* Тэрмін, на які народным судзьдзёю назначана справа на разгляд у акруговым судзе, павінен быць таксама адзначаны і на вокладцы справы.

*Увага 2.* Калі па справах, якія накіроўваюцца ў акруговы суд, ёсьць арыштаваныя, то на версе адносьніку і на вокладцы справы павінна быць напісана і надчыркнута слова— „арыштанская“, а ў адносьніку, апроч іншага, паказана, хто пазбаўлены волі і дзе знаходзіцца.

6. Пры назначэньне спраў народны судзьдзя павінен строга сачыць за тым, каб на адзін дзень пасяджэньня адпаведнай касацыйнай калегіі ня было назначана спраў больш таго ліку, які намечаны раскладам акруговага суду.

*Увага.* Адхіленьне ад гэтага правіла ў бок павялічэньня колькасьці спраў, намечанай раскладам акруговага суду, можа рабіцца толькі ў выключных выпадках напрыклад, пры назначэньні арыштанскіх спраў, але ня больш, як на адну справу супроць колькасьці, намечанай раскладам акруговага суду на адно судовае пасяджэньне.

7. Аб назначаных на разгляд у акруговым судзе справах, для ўстанаўленьня строгага кантролю за захаваньнем пляну назначэньня, у кожным народным судзе павінен весьціся пасобны сьпіс, паводле раскладу акруговага суду, паказанага ў п. 2-м гэтага абежніку, і ў якім павінна быць адзначана, якая справа і на які дзень месяца назначана на разгляд у акруговым судзе.

8. Пры абвяшчэньні старанам тэрміну і парадку абскарджаньня іх народны судзьдзя павінен растлумачваць старанам, што ў выпадку падачы скаргі, справа на разгляд яе ў касацыйнай інстанцыі акруговага суду будзе назначана ў народным судзе, дзе стораны могуць быць паведамлены аб дні разгляду справы ў акруговым судзе.

9. *Ужываньне* гэтага абежніку пачаць ад дня атрыманьня народнымі судамі ад адпаведнага акруговага суду раскладу судовых пасяджэньняў касацыйных калегій, паказанага ў п. 2-м гэтага абежніку і спэцыяльнага аб гэтым загаду акруговага суду.

Прапануючы ўвядзеньне паказанага парадку назначэньня на разгляд касацыйных спраў акруговых судоў, Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць патрэбным адзначыць, што ўжываньне гэтага новага парадку можа даць станоўчыя вынікі толькі ў тым выпадку, калі акруговымі судамі і народнымі судамі будзе захавана надзвычайная асьцярожнасьць і плянавасьць пры яго ажыцьцяўленьні, бо без гэтага праца касацыйных калегій акруговых судоў можа быць даведзена да поўнага зрыву.

З гэтай прычыны акруговым судом трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на сваячасапе забесьпячэньне народных судоў каляндарнымі

плянамі судовых пасяджэньняў касацыйных калегій і блянкамі павестак, а народным судзьдзям—на тое, каб пры назначэньні спраў на разгляд у акруговым судзе было, з аднаго боку, строга падлічана, што справа своечасна дойдзе да акруговага суду і стораны своечасна атрымаюць абвяшчэньне аб дні разгляду справы ў акруговым судзе, а з другога,—ужыты ўсе захады да строгага выкананьня ляну акруговага суду ў сэнсе назначэньне спраў на той дзень і ў эй колькасьці іх, якія намечаны раскладам акруговага суду.

Намесьнік Народнага Камісара Юстыцыі БССР
**С. Эднерал**

Ст. Інспэктар Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР
**І. Барышаў.**

10 лістапада 1927 г.
№ 97

Форма.

Дадатак да абежніка НКЮ БССР.
за 10 лістападу 1927 г, № 97,

Каляндарны расклад судовых пасяджэньняў і назначэньня спраў
у касацыйныя калегіі .......... акруговага суду
На пэрыяд часу з .......... да .......... 1927 г.

| Месяц і дзень судовых пасяджэньняў касацыйных калегій акруговага суду | Назва вучасткаў народнага суду і колькасьць спраў (крымінальных і грамадзянскіх), якую кожны народны суд мае права назначаць на разгляд у касацыйных калегіях акруговага суду на кожны дзень месяца. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 вуч. | | | 2 вуч. | | | |
| | Крымінальных | Грамадзянскіх | Усяго | Крымінальных | Грамадзянскіх | Усяго | |
| Студзень | 2 | 2 | 4 | 3 | 1 | 4 | |
| 7 | 1 | 3 | 4 | 2 | 2 | 4 | |
| 8 | 2 | 3 | 5 | 1 | 3 | 4 | |
| 13 | | | | | | | і г. д. |
| Усяго . . | | | | | | | |
| Люты | | | | | | | |
| і г. д. | | | | | | | |

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗЬНІШЧЭНЬНІ НЕКАТОРЫХ НЕДАХОПАЎ У ПРАЦЫ НАРОДНЫХ СУДОЎ.

*Усім акруговым і народным судом.*

Нагляданьне за дзейнасьцю народных судоў выяўляе некаторыя недахопы ў іх працы, якія павінны быць зьнішчаны.

Наглядаецца, напрыклад, што, заяўнікі, якія зварочваюцца да народных судоў, нягледзячы на раней дадзеныя НКЮстыцыі дырэктывы прыймаюцца ў некаторых выпадках, нават і тады, калі гэта не выклікаецца патрэбаю, не асабіста народнымі судзьдзямі, а сакратарамі народных судоў, пры гэтым у некаторых народных судох для прыйманьня заяўнікоў дакладна вызначаецца час прыйманьня.

Пры прыйманьні іскавых заяў ад працоўных ня выконваецца патрабаваньне арт. 5 ГКК аб растлумачэньні ім іх правоў і вынікаў ад недагляду іх і ня ўжываюцца ўсе належныя захады да забесьпячэньня іх інтарэсаў.

У паасобку, па ісках аб алімэнтах і аб заработнай плаце ня ўжываюцца захады да забесьпячэньня гэтых іскаў у парадку арт. арт. 82, 83, 86 і 87 ГПК.

Няўпарадкавана яшчэ назначэньне спраў на разгляд і выкананьне прысудаў, бо справы і набыўшыя законную сілу прысуды часта залежваюцца ў судох бяз усякага руху значны час.

Працэс і судагаварэньне вядзецца часта ў такой форме, што некаторыя іх моманты астаюцца зусім незразумелымі для ўдзельнікаў працэсу і для прысутнай на судзе публікі. Так, судом задаюцца такія пытаньні: „адводу ня робіце?“, „абвінавальнае заключэньне атрымалі?“, „грамадзянскага іску не заяўляеце?“ або растлумачваецца: —„парадак абскарджаньня касацыйны на працягу двух тыдняў“ і г. д.

Такія формы выразаў, якія зьмяшчаюць у сабе спэцыяльныя юрыдычныя тэрміны, часта астаюцца незразумелымі для тых, да каго яны адносяцца, і ня толькі перашкаджаюць іх інтарэсам, але і самаму працэсу, які ставіць на мэце, апроч вырашэньня справы, таксама і праўнае выхаваньне шырокіх мас працоўных, із гэтай прычыны павінен весьціся ў такой форме, каб быць ясным і зразумелым для ўдзельнікаў працэсу і для прысутнай на судзе публікі.

Пры вынясеньні прысудаў не заўсёды выконваюцца патрабаваньні п. п. 6, 7 і 8 арт. 320 КПК па пытаньнях аб грамадзянскім іску, аб рэчавых довадах і аб судовых стратах, з якіх пытаньняў— першае, аб грамадзкім іску, часта, калі няма належных падстаў, пераносіцца на разгляд грамадзянскага суду, а два апошнія, аб рэчавых довадах і аб судовых стратах,—на вырашэньне распарадчых пасяджэньняў суду.

Пры складаньні пастаноў па грамадзянскіх справах у тых выпадках, калі іскі здавальняюцца на падставе прызнаньня іх адказчыкамі або на падставе паданага істцом дакумэнту, выдадзенага яму адказчыкам і ім нічым не абвергнутага, у пастановах часта запісваюцца ўсе акалічнасьці справы і ўсе іншыя падставы фактычнага характару, якія былі высьветлены судом пры разглядзе справы і якія, калі ёсьць паказаныя довады, трацяць свае значэньне і толькі дарэмна запаўняюць пастанову лішнім матар‘ялам.

У некаторых выпадках народныя судзьдзі карыстаюцца арт. 77 ГПК і адкладваюць вынясеньне пастановы на новы тэрмін, калі няма тых выключных акалічнасьцей, якія прадугледжаны гэтым артыкулам.

З прычыны паказанага вышэй Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць да ведама, кіраваньня і выкананьня наступнае:

1. пры прыйманьні заяў у народных судох павінен выконвацца наступны парадак:

а) заявы ад грамадзян у народных судох, пісьмовыя і вусныя, паводле патрабаваньняў арт. арт. 92 і 94 КПК і 77 ГПК, павінны прымаць беспасрэдна народны судзьдзя, а не сакратар народнага суду, якому, паводле арт. 77 ГПК, даецца права толькі запісваць па даручэньні народнага судзьдзі вусныя заявы ў пратакол, які пасьля складаньня яго павінен быць прачытаны заяўніку і падпісаны народным судзьдзёю і сакратаром.

*Увага*. Адступленьне ад гэтага правіла, і то толькі ў адносінах да прыйманьня пісьмовых заяў, якія падаюцца ў народны суд грамадзянамі асабіста, можа быць дазволена толькі ў выключных выпадках, напрыклад, калі адсутнічае народны судзьдзя і г. д., аднак, і ў такіх выпадках прыйманьне заяў сакратаром павінна мець фактычны, а не юрыдычны характар, г. зн. рабіцца не канчаткова, а толькі для дакладу народнаму судзьдзі і перадачы яму на разгляд.

б) заявы ад грамадзян павінны прыймацца народным судзьдзёю ва ўвесь час заняткаў у народным судзе без абмежаваньня яго дакладна вызначанымі гадзінамі.

Апроч гэтага, народныя судзьдзі павінны назначаць у кожным месяцы паасобныя дні і гадзіны для прыйманьня заяў і скарг у іншых, апроч памяшканьня народнага суду, мясцох на тэрыторыі свайго вучастку, напрыклад, на прадпрыемствах, заводах, фабрыках, у клюбах працоўных, у сельскіх саветах і г. д. у час найбольшага збору там працоўных, а таксама прымаць заявы пры ўсіх выездах на раён у сельскіх саветах;

в) пры прыйманьні іскавых заяў народныя судзьдзі павінны дакладна выконваць патрабаваньні арт. 5 ГПК аб растлумачэньні старанам іх правоў і патрэбных фармальнасьцяй і папярэджваць іх аб выніках, якія зьвязаны з недаглядам іх;

д) пры прыйманьні іскавых заяў ад працоўных па іскох аб заработнай плаце і аб алімэнтах абавязкова растлумачваць працоўным іх правы на забесьпячэньне гэтых іскаў у парадку арт. арт. 82, 83, 86 і 87 ГПК і дапушчаць забесьпячэньне такіх іскаў ва ўсіх выпадках.

2. Пры назначэньні спраў на разгляд у судовыя і распарадчыя пасяджэньні і пры пасылцы павестак павінны выконвацца наступныя правілы:

а) кожная справа павінна быць назначана на разгляд у судовае або распарадчае пасяджэньне суду не пазьней, як праз тры дні пасьля паступленьня справы ў суд або пасьля разгляду яе на распарадчым пасяджэньні, і запісана ў кнігу назначэньня спраў на разгляд;

б) назначэньне спраў на судовыя і распарадчыя пасяджэньні і запіс іх у кнігу назначэньня спраў павінны рабіцца асабіста народным судзьдзёю, пры гэтым павінен строга захоўвацца чарговы парадак назначэньня спраў, які паказан у абежніку НКЮ № 94 за 1925 г. і ў іншых абежніках, якія ўстанаўляюць гэты парадак, а таксама—парадак назначэньне спраў на паасобныя гадзіны дня судовага пасяджэньня, паказаны ў абежніку НКЮ № 40 за 1926 г.;

в) назначэньне спраў па заявах і скаргах, якія падаюцца ў суд асабіста заяўнікамі або іх прадстаўнікамі, робіцца абавязкова адначасна з прыйманьнем заявы або скаргі праз абвяшчэньне падаўцу пад расьпіску дня і гадзіны разгляду справы;

г) пры адкладаньні разгляду спраў у судовым пасяджэньні там жа абвяшчаць старанам пад расьпіску ў справе аб часе, на які справа назначана на разгляд у другі раз;

д) назначэньне спраў і пасылка павестак павінны рабіцца з разьлікам: 1) каб павесткі былі сваячасна ўручаны ўсім удзельнікам працэсу, 2) каб расьпіскі іх аб атрыманьні павестак маглі быць сваячасна зьвернуты ў суд і 3) каб стораны мелі даволі часу пасьля атрыманьня імі павестак, прыблізна ня менш трох дзен, для азнаямленьня з справаю і на зьбіраньне патрэбных довадаў;

е) у павестках, якія пасылаюцца на імя абвінавачаных у парадку арт. 233 КПК па справах, прадугледжаных гэтым артыкулам, абавязкова павінна быць паказана, апроч артыкулаў КК, па якіх прад'яўляецца абвінавачаньне, і іншых зьвестак, якія зьмяшчаюцца ў павестках, таксама і кароткая фактычная сутнасьць абвінавачаньня, напрыклад, „па абвінавачваньні Вас у крадзежы хутра ў гр-на Івана Пятрова ў весцы... сельскага савету ноччу на 25 студзеня 1927 г.“ а ў павестках па грамадзянскіх справах, на імя старон, павінна быць паказана аб праве іх падаць у суд у дзень судовага пасяджэньня довады для пацьверджаньня і абвяржэньня паданага іску.

3. Усе прысуды нэбыўшыя законную сілу павінны пад асабістую адказнасьць народнага судзьдзі неадкладна выконвацца, пры гэтым прысуды, па якіх маюцца арыштаваныя,—не пазьней як праз тры дні пасьля набыцьця імі законнай сілы, а ўсе іншыя—не пазьней як праз тыдзень.

4. Пры вядзеньні працэсу старэцца ўжываць такія формы выразаў, якія зьяўляюцца зразумелымі для усіх і не патрабуюць папярэдняй спэцыяльнай падрыхтоўкі, і, па магчымасьці, не дапушчаць ужываньня пры зварочваньні суду да ўдзельнікаў працэсу спэцыяльных юрыдычных тэрмінаў, маючы на ўвазе яснасьць працэсу, як адну з найбольш патрэбных яго ўмоў, якая забясьпечвае інтарэсы працоўных і суду.

5. Пры вынясеньні прысудаў строга сачыць за выкананьнем патрабаваньняў п. п. 6, 7 і 8 арт. 320 КПК адносна разгляду адначасна з вынясеньнем прысуду пытаньняў аб грамадзянскім іску, аб рэчавых довадах і аб судовых стратах, пры гэтым кіравацца наступнымі правіламі:

а) перанясеньне пытаньня аб грамадзянскім іску ў грамадзянскі суд, у парадку арт. 329 КПК, дапушчаць толькі тады, калі ёсьць умовы, паказаныя ў гэтым артыкуле, а іменна: 1) калі трэба зрабіць падрабязны разьлік па грамадзянскім іску і калі гэты разьлік зьяўляецца вельмі складаным і патрабуе для сябе ня толькі значнага часу, але і дапасаваньня паасобных прыёмаў, напрыклад, запрашэньне экспэртаў і г. д. і 2) калі трэба сабраць дадатковыя зьвесткі і довады, без якіх грамадзянскі іск ня можа быць разгледжаны пры вынясеньні прысудаў. Ва ўсіх-жа іншых выпадках пытаньне аб грамадзянскім іску, калі ён быў своячасна заяўлены, павінна быць разгледжана адначасна з вынясеньнем прысуду;

(б пытаньне аб рэчавых довадах павінна быць абавязкова вырашана пры вынясеньні прысуду і зусім непавінна пераносіцца на разгляд распарадчага пасяджэньня суду, што вынікае з зьместу арт. арт. 69, 320 і 331 КПК, якія дапушчаюць астаўленьне гэтага пытаньня без разгляду суду пры вынясеньні прысуду толькі ў адным выпадку, а іменна, калі ёсьць спрэчка аб належнасьці рэчаў, пры гэтым у такім выпадку такое пытаньне вырашаецца грамадзянскім судом у агульна-іскавым парадку, а ў прысудзе павінна быць абавязкова адзначана аб нявыдачы судом паказаных рэчаў да вырашэньня пытаньня грамадзянскім судом і да набыцьця вынесенай апошнім па гэтым пытаньні пастановы законнай сілы;

в) таксама пытаньне аб судовых стратах, у адпаведнасьці з патрабаваньнем арт. арт. 88—90, 320 і 332 КПК, абавязкова павінна быць вырашана адначасна з вынясеньнем прысуду, пры гэтым у апошнім павінна быць паказана ня толькі на каго трэба ўскласьці судовыя страты, але і ў якім разьмеры, у якой суме, і толькі ў тым

выпадку, калі складаньне падрабязнага разьліку судовых страт у судовым пасяджэньні зьяўляецца вельмі складным і трудным, то гэтае пытаньне, у межах вызначэньня разьмеру судовых страт, можа быць перанесена на разгляд разпарадчага пасяджэньня суду, пры гэтым у такім выпадку ў прысудзе абавязкова павінна быць паказана, на каго і якая доля ўскладаецца выплаты судовых страт.

6. Пры складаньні пастаноў па грамадзянскіх справах у тых выпадках, калі іск здавальняецца на падставе прызнаньня яго адказчыкам або на падставе дакумэнту, выдадзенага адказчыкам і ні ў чым ім не абвергнутага, у матывах пастановы запісваць толькі кароткія паказаньні на гэтыя пастановы і не запісваць у іх, для скарачэньня запісі пастановы, іншых фактычных матар'ялаў, якія былі высьвятлены судом і ня маюць пры наяўнасьці паказаных довадаў ніякага значэньня для справы.

7. Ужываньне арт. 177 ГПК. у сэнсе адкладаньня абвяшчэньня пастановы на другі тэрмін дапушчаць, у адпаведнасьці з патрабаваньнем паказанага артыкулу, толькі ў выключных выпадках, а іменна—калі па складанасьці справы складаньне пастановы патрабуе або доўгага часу, або папярэдняй падрыхтоўкі.

Ва ўсіх-жа іншых выпадках пастанова суду, як правіла, павінна быць складзена і абвешчна ў дзень судовага пасяджэньня.

8. Старшыні акруговых судоў, загадчыкі крымінальных і грамадзянскіх аддзелаў іх і члены акруговых судоў, павінны ўстанавіць строгі нагляд за выкананьнем народнымі судамі паказаных вышэй прапаноў, заўважаючы парушэньні іх пры рэвізіях і пры разглядзе спраў народных судоў у парадку касацыйным і ў парадку нагляду, дапушчаецца сыстэматычна ужываць захады да прыцягненьня вінаватых у дапушчэньні іх да дысьціплінарнай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Ст. Інсэктар Народнага Камісарыяту
Юстыцыі БССР **І. Барышаў.**

10 лістапада 1927 г.

№ 98

---

## 12 Абежны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ БОЛЬШ ЧЫТЭЛЬНЫМ ПІСАНЬНІ ПАПЕР І АКТАЎ У СПРАВАВЯДЗЕНЬНЯХ

*Усім органам юстыцыі.*

Наглядаецца, што некаторыя паперы і акты ў справавядзеньнях мясцовых органаў юстыцыі, у паасобку: народных судоў, сьледчых і органаў пракуратуры, якія паступаюць у Народны Камісарыят Юстыцыі, пішуцца так ня чытэльна, што іх або зусім няможна прачытаць, або для прачытаньня іх патрабуецца асабліва надзвычайнае напружаньне, што выклікае дарэмную трату часу, а ў некаторых выпадках нават і патрэбна адсылаць паперы або справавядзеньні назад для прысылкі новых чытэльна напісаных копій.

Характэрным пры гэтым зьяўляецца ня тое, што паперы і акты пішуцца нячытэльна з тае прычыны, што пісаўшая іх асоба ня можа пісаць лепш, а тое, што яны пішуцца часта вельмі нядбайна, а ў не-

каторых выпадках нават і старанна, але такім чынам, што можна лічыць, што пісаўшая іх асоба як-быццам знарок ужывае ўсе захады да таго, каб перакруціць характар свайго пісьма для прыданьня яму найбольшага прыгоства, далучаючы да паасобных літар усялякія кручкі, росчыркі і г. д., або прыданьня ім асобнага нахілу.

Усё гэта вельмі дрэнна адбіваецца на руху папер і спраў.

З прычыны ўсяго паказанага вышэй Народны Камісарыят Юстыцыі, зварочваючы ўвагу органаў юстыцыі на адзначаныя недахопы, прапануе ўжыць усе захады да адхіленьня іх у будучым, маючы на ўвазе тыя вынікі, якія зьвязаны з невыкананьнем гэтай дырэктывы.

З таварыскім прывітаньнем: **С. Гохман. С. Эднерал.**

11 лістапада 1927 г.
№ 25.

---

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНІ ШКОЛ РОЗНЫМІ БЛЯНКАМІ ВЕДАМАСЬЦЯЙ, СЬПІСАЎ КНІГАМІ І ІНШ., ЯКІЯ ПАВІННЫ ВЕСЬЦІСЯ Ў ШКОЛАХ ПАВОДЛЕ СТАТУТУ АДЗІНАЙ ПРАЦОЎНАЙ ШКОЛЫ.

*Усім акруговым інспэктарыятам народнай асьветы.*

Заўважана, што ня ўсе школы забясьпечаны блянкамі ведамасьцяй, сьпісаў, каталёгаў, кнігамі і іншымі прыладамі, пералічанымі ў пастанове Народнага Камісарыяту Асьветы за 31 сакавіка 1926 г. № 39 (Гл. Статут адзінай працоўнай школы БССР), а шмат якія школы вядуць запісы ў кнігах і блянках, якія загатаўляюцца ад рукі, на што прыходзіцца пэдагагічным працаўніком нерацыянальна траціць час.

Прапануецца акруговым інспэктаром народнай асьветы зрабіць належныя захады, каб усе школы былі забясьпечаны загатоўленымі ў друкарнях блянкамі і кнігамі паводле ўзораў, прыкладзеных да пастановы Н. К. Асьветы за 31-е сакавіка 1926 г. за № 39 і надрукаваных у статуце адзінай працоўнай школы.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

31 кастрычніка 1927 г.
№ 3.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ УЗЯЦЬЦІ ЎДЗЕЛУ Ў ШКОЛЬНЫМ ПЕРАПІСЕ.

*Усім інспэктаром народнай асьветы і загадчыкам навучальных устаноў, якія беспасрэдна падпарадкаваны Народнаму Камісарыяту Асьветы.*

15-га сьнежня г. г. адбудзецца перапіс школ усіх тыпаў.

Гэты перапіс мае на мэце абсьледаваць ня толькі школы, але і вывучыць усебакова вучняў і пэдагагічны пэрсанал школ праз распрацоўкі асабовых картак на кожнага вучня і настаўніка.

Надаючы перапісу вялікае значэньне і бяручы пад увагу яго складанасьць, Народны Камісарыят Асьветы просіць ужыць усе захады да правядзеньня яе з большым пасьпехам і, як канкрэтныя мерапрыемствы, прапануе наступнае:

1. Вылучыць са складу акругавага інспэктарыяту адказнага працаўніка для ўдзелу ва ўсіх нарадах, якія будуць склікацца акруговым статыстычным бюро адносна перапісу.

2. Калі акруговае статыстычнае бюро будзе прасіць, то вызначыць асоб для працы ў якасьці раённых кіраўнікоў і вучастковых інструктароў па перапісі. Па думцы Народнага Камісарыяту Асьветы абавязкі інструктароў па перапісі можна было-б ускласьці на раённых інспэктароў народнай асьветы.

Асобы, якія выконваюць абавязкі кіраўнікоў і інструктароў па перапісі, плату за гэтую работу павінны атрымаць ад акруговага статыстычнага бюро.

3. Загадчыкі школ павінны сачыць за тым, каб блянкі і асабовыя карткі запаўняліся ўважліва і ў тэрмін.

Адказнасьць за гэта, а таксама за сваячасную праверку запоўненых блянкаў і картак, ускладаецца цалкам на загадчыкаў школ.

4. Ужыць усе захады, каб шырока выкарыстаць раённыя настаўніцкія канфэрэнцыі, якія маюць адбыцца ў час да пачатку перапісу, для інструктаваньня загадчыкаў школ.

Паводле гэтага інспэктары народнай асьветы павінны паклапаціцца, каб чарговыя раённыя канфэрэнцыі настаўнікаў, у сувязі з перапісам, былі прыстасованы да першых дзён сьнежня, пры гэтым у павестку дня гэтых ўнастаўніцкіх канфэрэнцый трэба ўнесьці, як грунтоўнае, пытаньне аб школьным перапісе. Даклад па гэтым пытаньні і інструктаваньне будуць рабіць на канфэрэнцыях раённыя кіраўнікі перапісу або вучастковыя інструктары, на якіх Цэнтральная Статыстычная Ўправа ўскладае абавязак інструктаваньня па запаўненьні статыстычных фармуляраў.

5. Каб скарыстаць перапіс для пэдагагічных мэт, напярэдадні перапісу ў кожнай школе павінен быць зроблен для вучняў даклад аб значэньні перапісу з высьвятленьнем, на падставе мясцовага матар‘ялу, стану асьветы ў школьным раёне. Апроч таго, пажадана, ў працэсе падрыхтоўчых да перапісу работ, уцягваць у іх вучняў старэйшых груп, якія з посьпехам могуць дапамагчы сваім настаўнікам у справе, напрыклад, вымеру школьных зямельных дзялянак, вылічэньня плошчы і кубатуры школьных памяшканьняў, кап‘яваньня сьпісаў вучняў і г. д., але, зразумела, пад беспасрэдным наглядам і кіраўніцтвам пэдагагічнага пэрсаналу.

У зьвязку з надыходзячым школьным перапісам і чарговым абсьледаваньнем Цэнтральнай Статыстычнай Управы ўсіх культурна-асьветных устаноў БССР, прапануецца акруговым інспэктором народнай асьветы зьвярнуць увагу раённых інспэктароў народнай асьветы і загадчыкаў усіх культурна-асьветных устаноў кожнай акругі на патрэбу дакладнага выкананьня імі абавязкаў, ускладзеных гэтым абежнікам на працаўнікоў асьветы.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Б. Вансоўскі.**

Сакратар Н. К. Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

12 лістапада 1927 г.
№ 4.

---

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ АДКАЗНАСЬЦІ АДМІНІСТРАТАРАЎ ТЭАТРАЛЬНЫХ ПАМЯШКАНЬНЯЎ І ЗАГАДЧЫКАЎ КІНО-ТЭАТРАЎ ЗА ВЫПЛАТУ АЎТАРСКАГА ГАНАРАРУ.

*Адміністратарам тэатральных памяшканьняў і загадчыкам кіна-матографаў.*

З тае прычыны, што няплата аўтарскага ганарару каляктывамі артыстаў за розныя пастаноўкі ў тэатрах і кіно-тэатрах, а таксама за кіно-сэансы зрабілася звычайным зьявішчам, ня гледзячы на абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы за 2 чэрвеня 1927 г. № 17 паводле якога аўтарскі ганарар павінен выплачвацца не пазьней аднаго тыдня ад дня пастаноўкі, Народны Камісарыят Асьветы БССР п р а п а н у е:

1. Адміністратарам тэатральных памяшканьняў і загадчыкам кіно-тэатраў, у дагаворы або згодзе аб здачы памяшканьня розным каляктывам артыстаў, абавязваць зьёмшчыкаў гэтах памяшканьняў плаціць агэнтам Беларускага Т-ва Драматычных Пісьменьнікаў належныя сумы аўтарскага ганарару, забясьпечваючы гэтым дагаворам (згодаю) права здатчыка памяшканьня затрымоўваць належныя сумы аўтарскага ганарару з касавай выручкі або з платы за спэктакль.

2. Загадчыкам кіно-матаграфаў—выплачваць агэнтам Беларускага Т-ва Драматычных Пісьменьнікаў і Кампазытараў аўтарскі ганарар за кіно-сэансы ў тэрмін вызначаны абежнікам Н. К. Асьветы за 1927 г. № 17, г. зн. не пазьней сямі дзён пасьля кіно-сэансу.

Адказнасьць за невыкананьне гэтага абежніку цалкам ускладаецца на адміністратараў тэатральных памяшканьняў і загадчыкаў кіно-тэатраў.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Б. Вансоўскі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

21 лістапада 1927 г.
№ 5.

---

## 16. Пытаньні і адказы.

### Пытаньні, якія ўзьніклі ў практыцы зямельных устаноў.

ПЫТАНЬНЕ **90**. Якімі дакумэнтамі аддзел камунальнай гаспадаркі можа давесьці, што зямельны вучастак да 1 жніўня 1922 г. знаходзіўся ў распараджэньні гарадзкага савету?

АДКАЗ. Гарадзкі савет можа давесьці знаходжаньне да 1-га жніўня 1922 г. у яго распараджэньні зямельных вучасткаў усялякімі дакумэнтамі, з якіх відаць, што да рэвалюцыі горад уладаў гэтымі вучасткамі на праве ўласнасьці, пры гэтым пасьля рэвалюцыі яны не паступілі ў працоўнае карыстаньне сялян, а таксама дакумэнтамі, якія сьведчаць, што гарадзкі савет да 1 жніўня 1922 г. аддаваў гэтыя вучасткі ў арэнду, разьмяркоўваў іх сярод землякарыстальнікаў, браў з іх падаткі, рабіў на гэтых землях гарадзкое ўпарадкаваньне і г. д., у паасобку, такімі дакумэнтамі могуць быць: а) пляны і дакумэнты дарэвалюцыйнага часу; б) арэндныя дагаворы ордэры,

пляны, абавязковыя пастановы і іншыя дакумэнты, якія пацьвярджаюць, што паказаныя вучасткі знаходзіліся ў распараджэньні гарадзкога савету да 1 жніўня 1922 г.

ПЫТАНЬНЕ **91**. Ці могуць і далей карыстацца зямлёю надзеленыя грамадзяне, якім карыстаньне дазволена раённаю зямельнаю камісіяю на падставе ўвагі да арт. 204 Зямельнага Кодэксу, калі пастанова раённай зямельнай камісіі скасована была акруговаю зямельнаю камісіяю і справа зьвернута для складаньня новага праэкту?

АДКАЗ. На падставе ўвагі да арт. 204 Зямельнага Кодэксу раённая зямельная камісія магла дапусьціць папярэдняе выкананьне свае пастановы толькі па справе аб адабраньні лішак з карыстаньня вялікай гаспадаркі і аб разьмеркаваньні іх сярод патрабуючых зямлі грамадзян. Калі гэтае адабраньне зроблена было з карыстаньня паасобных гаспадарак з разьмеркаваньнем абрэзкаў зямлі, пры гэтым раённая зямельная камісія дапусьціла па справе папярэдняе выкананьне, а акруговая зямельная камісія скасавала земляўпарадчы праэкт і пастанову раённай зямельнай камісіі для складаньня новага праэкту, то грамадзяне, якія надзелены зямлею з абрэзкаў вялікай гаспадаркі, маюць права па падабенству з арт. 17 Палажэньня аб Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю і далей карыстацца атрыманаю зямлёю аж да зацьверджаньня акруговаю зямельнаю камісіяю зьмененага земляўпарадчага праэкту.

ПЫТАНЬНЕ **92**. Ці пашыраецца арт. 26 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 22 ліпеня 1926 г. № 18 аб парадку правядзеньня работ па землянадзяленьні на такія справы, па якіх праэкты былі складзены без належнай падрыхтоўкі да 22 ліпеня 1926 г., і ці могуць зямельныя камісіі ўжываць пастановы паказанага абежніку да спраў, якія разглядаюцца імі пасьля гэтага тэрміну і па якіх праэкты складзены без захаваньня паказанага абежніку?

АДКАЗ. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства за 22 ліпеня 1926 г. № 18 на падставе 26 яго артыкулу нельга ўжываць да спраў па землянадзяленьні, па якіх канчаткова земляўпарадчы праэкт быў перанесены ў натуру да выданьня гэтага абежніку. Зямельныя камісіі павінны разглядаць такі праэкт, кіруючыся тымі распараджэньнямі, пры дзеяньні якіх ён быў складзены.

ПЫТАНЬНЕ **93**. Ці пашыраецца арт. 2 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 5 сакавіка 1927 г. № 16 аб прыпыненьні да земляўпарадкаваньня адабраньня лішкаў зямлі з карыстаньня цераспалосных гаспадарак на справы, падрыхтаваныя да 5 сакавіка 1927 г., а таксама ці не адпадае патрэба складаньня па гэтых справах новых праэктаў, якія былі складзены ў мінулыя гады, але потым былі скасованы зямельнымі камісіямі для складаньня новых?

АДКАЗ. На падставе арт. 2 абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 5 сакавіка 1927 г. № 16 аб зьменах парадку правядзеньня работ па землянадзяленьні адабраньне лішкаў больш нормы ў цераспалосных гаспадарках можа наперад рабіцца толькі пры ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні. З гэтай прычыны павінны спыняцца ўсе земляўпарадчыя справы, на якіх праэкт адабраньня лішкаў зямлі з карыстаньня цераспалосных гаспадарак яшчэ не зацьверджаны акруговаю зямельнаю камісіяю. Выкананьне-ж зацьверджаных праэктаў па паказаных справах прыпыняецца да ўнутрывясковага земляўпарадкаваньня.

ПЫТАНЬНЕ **94**. Пры завядзеньні зямельнай справы судовая мыта з ісца ня была ўзята, а ў судовым пасяджэньні пры здавальненьні іску мыта ўскладзена была на адказчыка. Апошні падаў скаргу і акруговая зямельная камісія скасавала пастанову раённай. Ці трэба ў такім разе спаганяць у бясспрэчным парадку судовую мыту, ускладзеную на адказчыка пастановаю раённай зямельнай камісіі?

АДКАЗ. На падставе арт. арт. 2, 16 і 17 інструкцыі аб парадку спагнаньня судовых збораў зямельнымі камісіямі судовая мыта павінна спаганяцца з ісца пры падачы ім іску. Калі-ж па недагляду раённай зямельнай камісіі мыта ў свой час ня была ўзята, а пры вынясеньні пастановы па справе ўскладзена на адказчыка з прычыны прызнаньня іску правільным, то пастанова зямельнай камісіі ў частцы спагнаньня судовай мыты належыць да безадкладнага выкананьня ў адміністрацыйным парадку, хоць-бы на яе была падана скарга. Калі-ж і на гэты раз раённая зямельная камісія ня выканала свайго абавязку і падала неаплочаную судовымі зборамі справу ў акруговую зямельную камісію, то апошняя пры вырашэньні справы па сутнасьці і прызнаньні першапачатковага іску няправільным павінна была ўскласьці на ісца выплату судовай мыты за першую інстанцыю. Спаганяць у даным выпадку з адказчыка судовую мыту ня трэба, бо калі-б яна нават была з яго ўзята ў свой час, гэта значыць пры вынясеньні пастановы раённаю зямельнаю камісіяю, то ўзятая мыта павінна была-б зьвернута адказчыку па яго хадайніцтву пасьля скасаваньня акруговаю зямельнаю камісіяю пастановы першай інстанцыі.

ПЫТАНЬНЕ **95**. У раённы выканаўчы камітэт паступаюць падпіскі грамадзян аб адказе ад карыстаньня часткаю зямлі. Хадайніцтвы гэтыя падаюцца, каб пазбавіцца ад сельска-гаспадарчага падатку. Якія фармальнасьці трэба ўжываць пры залічэньні ў такіх выпадках зямлі ў запасны фонд?.

АДКАЗ. Артыкулы 9, 18 і 19 Зямельнага Кодэксу вызначаюць права, а не абавязак працоўнага карыстаньня зямлёю для вядзеньня гаспадаркі. З гэтай прычыны землекарыстальнік заўсёды можа адмовіцца ад усяе альбо часткі зямлі, якая знаходзіцца ў яго карыстаньні. Адмова працоўнай земляробскай гаспадаркі ад зямлі ажыцьцяўляецца праз падачу ў мясцовы па знаходжаньні гэтай зямлі сельскі савет адпаведнай заявы, падпісанай усімі паўнапраўнымі членамі двара (арт. 46 Зям. Код.). Па сутнасьці заявы сельскі савет робіць у падворным сьпісу адзнаку аб зьмене ў землекарыстаньні двара пры адмове яго ад часткі зямлі альбо аб выключэньні са сьпісу двара пры адмове яго ад усяе зямлі і перадае потым з захаваньнем арт. 15 Зям. Код. паступіўшую ў запасны фонд зямлю патрабуючым яе грамадзянам у парадку чаргі, вызначанай артыкулам 10 Зям. Кодэксу.

## Пытаньне, якое ўзьнікла ў практыцы Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю, а таксама Полацкай Акруговай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ 96. Дзейнасьць сельска-гаспадарчага каляктыву, утворанага на вучастку дзяржаўнай зямельнай маемасьці, спынена была паводле пастановы акруговага выканаўчага камітэту з прычыны безгаспадарчых адносін каляктыву да будынкаў і садоў, а таксама з прычыны пераходу ад грамадзкай апрацоўкі зямлі да асабовай і наогул з прычыны невыкананьня статуту. Пры ліквідацыі каляктыву апошні адмовіўся дабравольна зьвярнуць зямлю, інвэнтар і будынкі зямельнаму органу. У якім парадку могуць быць адабраны інвэнтар і зямля з карыстаньня членаў быўшага сельска-гаспадарчага каляктыву і выселены яны з будынкаў, якія ўваходзяць у склад дзяржаўнай зямельнай маемасьці? Каму падсудны таксама іскі аб высяленьні быўшых членаў сельска-гаспадарчага каляктыву, выключаных з яго складу, калі гэтыя іскі зьвязаны з спрэчкамі аб выплатах і стратах паміж каляктывам і яго быўшымі членамі, альбо з пытаньнем аб скасаваньні дагавораў на дзяржаўную зямельную маемасьць?

АДКАЗ. Утвораны на вучастку дзяржаўнай зямельнай маемасьці сельска-гаспадарчы каляктыў, дзейнасьць якога спынена была пастановаю акруговага выканаўчага камітэту з прычыны парушэньня каляктывам свайго статуту, павінен з моманту ліквідацыі зьвярнуць у распараджэньне зямельных органаў зямлю на падставе ўвагі да арт. 106 Зям. Код., а таксама інвэнтар, будынкі і іншую маемасьць, атрыманыя ім па сьпісу. Калі гэты абавязак ня будзе выкананы членамі быўшага каляктыву, то па іску зямельнага органу або назначанай ім ліквідацыйнай камісіі ў судовым парадку адбіраецца з карыстаньня быўшага каляктыву зямля, будынкі і іншая дзяржаўная маемасьць, бо адміністрацыйны парадак высяленьня ня вызначаны законам для такіх выпадкаў. Што-ж тычыцца да падсуднасьці іску ўрадавай установы аб адабраньні дзяржаўнай зямельнай маемасьці і адначасна падаваемага іску аб інвэнтары і будынках, а таксама аб скасаваньні дагавару на дзяржаўную зямельную маемасьць, то на падставе арт. 141 і пункту „а“ арт. 200 Зям. Код. гэты іск падсудны, як першай інстанцыі, акруговай зямельнай камісіі. Яна-ж на падставе арт. 105 Зям. Код. разглядае спрэчкі паміж сельска-гаспадарчым каляктывам і выключанымі з яго складу членамі аб высяленьні іх з будынкаў каляктыву, выплатах, стратах і ўсякіх узаемных падрахунках.

Адказы на пытаньні 90—96 даюцца Асобаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю пры Н. К. Земляробства БССР (журнал распарадчага пасяджэньня АКВК за 10 лістапада 1927 г., № 32).

## Запытаньні цэнтральнага кіраўніцтва Саюзу „Мэдсанпрацы“, прысланыя пры адносьніку за 3 лістапада г. г. № В/3.

ПЫТАНЬНЕ 97. Ці ўваходзіць габінэт доктара ў склад жылой плошчы, ці яго трэба лічыць асобна, як неўваходзячы ў жылую плошчу, якая займаецца жыльцом?

АДКАЗ. Паводле закону аб кватэрнай плаце „дадатковая плошча“, якая займаецца для прафэсіянальнай дзейнасьці асобамі, не належачымі да катэгорыі пералічаных у арт. 15-м, аплачваецца на агульных падставах.

Значыць, калі габінэт доктара зьяўляецца лішкам жылой плошчы ў параўнаньні з арт. 14-м (г. зн. па 2 сажні на жыльца плюс 2 сажні дадаткова на ўсю сям'ю), то ён аплачваецца ў падвойным разьмеры.

ПЫТАНЬНЕ **98**. Ці мае права дамакіраўніцтва перасяляць з занятай жылой плошчы, на якую жылец мае права, ў другі пакой, у выніку якога перасяленьня належачая сям'і паводле нормы плошча зьменшыцца, бяручы пад увагу пастанову ЦВК і СНК за 15 верасьня, якая не прадугледжвае перасяленьня?

АДКАЗ. Прымусовае перасяленьне жыльцоў не прадугледжваецца заканадаўствам БССР, з тае прычыны, што гэта ёсьць абмежаваньне маемасных праў грамадзян, то трэба лічыць, што гэта забараняецца.

---

*Частка неафіцыйная*

## Аб „зборніку чынных законаў БССР за 1921-1924 г. г.“.

Гэтымі днямі вышла новае выданьне Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР, „зборнік чынных законаў БССР за 1921-1924 г.“ Гэтае выданьне даўно нецярпліва чакалася народнымі судзьдзямі, праваабаронцамі, юрысконсультамі і інш. дзеля таго, што „Збор законаў БССР“ за 1922-24 г., у якім былі апублікаваны гэтыя законы, канчаткова распраданы і поўныя камплекты яго маюцца толькі ў нямногіх установах. Законы-ж за 1921 г., якія апублікаваны ў ранейшым афіцыйным органе „Известия ЦИК БССР“ маюцца ў Менску, наогул, усяго ў 2-3 экзэмплярах. Пасьля выданьня „Зборніку“ гэтыя законы даступны для ўсіх грамадзян. Апроч гэтага звыш 400 законаў, выданых на працягу 1922-24 г. скасованы наступнымі ўрадавымі актамі і дзеля гэтага кожны карыстаючыся „Зборам Законаў“ быў вымушаны наведвацца ці той або іншы закон ў даны час чынны ці скасаваны. У „Зборнік“-жа уключаны толькі тыя законы (апроч кодэксаў), якія захоўваюць сваю сілу ў сучасны момант, што яшчэ больш павялічае каштоўнасьць выданьня. Усе законы, выданыя ў свой час толькі на расійскай мове, надрукаваны ў „Зборніку“ на беларускай і расійскай мовах. Даданы хронолёгічны паказчык палягчае адшуканьне патрэбнага закону.

---

Адказны рэдактар: **Рэдакцыйная калегія.**